КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 5 (276) ◂ 3 лютага ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144





**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ТАТЭМНЫЯ СКОКІ З ЯНКАМ КУПАЛАМ**

Роздум Андрэя Расінскага

▸ З НАГОДЫ

# ПАЛЯВАННЕ НА ПРАВААБАРОНЦАЎ

Генадзь КЕСНЕР

**У аўторак, 31 студзеня, з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна на волю выйшаў кіраўнік зарэгістраванага ва Украіне Праваабарончага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву», былы следчы пракуратуры, воін-афганец, сустаршыня аргкамітэту па стварэнню Руху ветэранаў баявых дзеянняў «Абаронцы Айчыны» Алег Волчак. Праваабаронца правёў за кратамі чацвёра сутак.**



Алега Волчака затрымалі 27 студзеня проста на вуліцы. Перад гэтым праваабаронца быў на пошце, адкуль адпраўляў газету «Народная воля» астравецкаму праваабаронцу Івану Круку. Алега Волчака адвезлі ў Цэнтральны РУУС сталіцы, дзе на яго склалі пратакол аб «дробным хуліганстве» (артыкул 17.1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях). Паводле міліцыянтаў, праваабаронца нібыта брыдкасловіў наўпрост на вуліцы ды размахваў рукамі. Пытанне, на каго гучна лаяўся матам юрыст, пазней засталося без адказу.

Судзілі Алега Волчака ў панядзелак, 30 студзеня. У суд Цэнтральнага раёна яго прывезлі бліжэй да 13-й гадзіны, хоць і адвакат, і прадстаўнікі грамадскасці ды журналісты чакалі затрыманага там яшчэ ад самага ранку. Адвакат Дар'я Ліпкіна нават была вымушана высвятляць, дзе ж яе кліент, бо адзін з супрацоўнікаў міліцыі чамусьці сказаў, што Волчака павезлі ў нейкі іншы суд. Аказалася, схлусіў праваахоўнік.

Сведкам на працэсе выступаў сам намеснік начальніка Цэнтральнага РУУС Антон Шахлей. Менавіта ён заяўляў на судовым пасяджэнні, што Алег Волчак нецэнзурна лаяўся і махаў рукамі. Суддзя Аляксандр Якунчыхін, які вёў справу, прыняў да ведама толькі словы міліцэйскага чына, але не довады абвінавачанага, што ўсё сказанае праваахоўнікамі — хлусня. Варта адзначыць, што спадар Якунчыхін забараніў весці аўдыёзапіс судовага пасяджэння (гэта не забаранялася рабіць нават падчас разгляду крымінальных спраў па падзеях 19 снежня 2010 года і справы аб выбуху ў мінскім метро!) і выдаліў з залы пасяджэнняў журналістку, якая паспрабавала ўсё ж гэта зрабіць. Астатніх прысутных на працэсе паабяцаў прыцягнуць да адказнасці за непавагу да суда.

У выніку Алег Волчак быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні адміністратыўнага правапарушэння і прыгавораны да чатырох сутак арышту. Паколькі да суда трое сутак праваабаронца ўжо правёў на Акрэсціна, то адседзець яму заставалася яшчэ толькі адны суткі, і ў другой палове дня ў аўторак Алег Волчак пакінуў вязніцу.

Праваабаронца параўнаў умовы, у якіх ён адбываў адміністратыўны арышт, з катаваннямі. «Самае страшнае — гэта халадэча, бо ў камеры было не больш за 15–16 градусаў цяпла. З крана пастаянна цякла вада, таму заснуць было практычна немагчыма, — адзначыў Алег Волчак. — На сценах камеры шмат усялякага бруду, поўная антысанітарыя, разбітыя шыбы, скразняк. Умовы, у якіх трымаюць людзей, гэта нейкае скоцтва. Спаць проста на падлозе — гэта дзікунства. Ва ўсіх, хто знаходзіцца на Акрэсціна, адна задача — выжыць і выйсці на свабоду». У той жа час, распавёў праваабаронца, перанасялення камер на Акрэсціна не назіралася, прэтэнзій да харчавання і да стаўлення да яго з боку адміністрацыі вязніцы ён не мае.

Што да прычын яго затрымання і арышту, то ў Алега Волчака ёсць некалькі версій. «Па-першае, магчыма, апошнім часам я стаў даваць больш палітычныя каментары, а не проста як праваабаронца, закранаючы пры гэтым вельмі важныя пытанні. Улічваючы тое, што да Уладзіміра Барадача дабрацца вельмі складана, то, магчыма, вырашылі зрабіць такі папераджальны «стрэл» па мне. Памятаеце, у нас было некалькі асноўных тэм — гэта выбух у метро, абавязковыя адбіткі пальцаў у ваеннаабавязаных. Таксама, магчыма, выклікала такую рэакцыю прэзентацыя даклада па справе Алеся Бяляцкага — над 44-старонкавым дакументам працавала цэлая група экспертаў. Апроч таго, у нас планавалася паездка ў адну з рэспублік, дзе мы павінны былі сустрэцца з былымі супрацоўнікамі праваахоўных органаў Украіны, Расіі, Польшчы, Літвы і абмеркаваць ідэю стварэння міжнароднага паліцэйскага прафсаюза, мэтай якога была б абарона праваахоўнікаў, прапрацаваць статут арганізацыі. Магчыма, такая інфармацыя таксама недзе прайшла. Таксама ім удалося ўсё ж такі ўзяць у мяне адбіткі пальцаў, бо асобы, якія прыцягваюцца да адміністратыўнай адказнасці, абавязаныя здаць адбіткі пальцаў рук», — адзначыў Алег Волчак.

Праваабаронца таксама задаецца пытаннем, каму было выгадна яго затрымаць і пасадзіць на суткі, хто аддаваў загад: «Лукашэнкі няма ў краіне, і ведаючы, што зараз не заціхае вельмі вялікі скандал вакол справы Бяляцкага… Я, верагодна, уваходжу ў пяцёрку самых вядомых беларускіх праваабаронцаў, дык навошта было ўздымаць новы скандал? Складана сказаць, якія тут насамрэч прычыны, вельмі шмат усяго назапасілася. Можа, нават КДБ пакрыўдзілася, што я хацеў дабіцца ад іх выбачэнняў за сапсаваны кампутар, які ў мяне сканфіскавалі падчас апошнягаператрусу і вярнулі поўнасцю не функцыянальным?»

На думку Алега Волчака, сёння ў Беларусі праваабаронцы — больш чым проста праваабаронцы, таму і ўвага да іх з боку ўлады павялічваецца з кожным разам. На думку незалежных экспертаў, менавіта праваабаронцы разам са структурамі грамадзянскай супольнасці і незалежнымі СМІ ва ўмовах амаль поўнай маргіналізацыі палітычнай апазіцыі сёння ўяўляюць для рэжыму найбольшую небяспеку. Таму і такія жорсткія захады ўжываюцца ў дачыненні да іх.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. ДУШАЦЬ ГРАМАДЗЯНСКУЮ СУПОЛЬНАСЦЬ

**За апошнія некалькі дзён мясцовыя ўлады канфіскоўвалі ўлёткі, а таксама спрабавалі сарваць два публічныя мерапрыемствы.**

30 студзеня ў абласным цэнтры быў затрыманы Мікалай Сяргееў, гомельскі дэмакратычны актывіст, які супрацоўнічае з ГІ «Гомельскі дэмакратычны форум». У актывіста канфіскаваныя 3000 асобнікаў інфармацыйнай улёткі кампаніі «Ведаю!», якая была прысвечана праблеме будаўніцтва беларускай АЭС.

Сяргееў адпушчаны з міліцыі без складання пратаколу, друкаваная прадукцыя канфіскавана.

Некалькімі днямі раней рэгіянальныя актывісты Руху «За Свабоду» і ГІ «Гомельскі дэмакратычны форум» арганізоўвалі для гамяльчан сустрэчу з палітолагам, філосафам і метадолагам Уладзімірам Мацкевічам. Сустрэча ў выніку адбылася, і наведалі яе больш за 50 чалавек. Аднак пры арганізацыі мерапрыемства таксама здарыліся сур'ёзныя праблемы.

«У апошні момант, у пятніцу пасля абеду, адміністрацыя гасцініцы, дзе ў нас было замоўлена памяшканне, адмовіла нам у правядзенні мерапрыемства, патлумачыўшы гэта тым, што ім патэлефанавалі», — распавяла актывіст ГДФ Дар'я Суворава.

Месца правядзення сустрэчы давялося мяняць у экстраным парадку. На шчасце, спецслужбы не паспелі адрэагаваць на аператыўнасць дэмакратаў. А можа, сваю ролю адыграў і той факт, што сустрэчу ў выніку перанеслі ў памяшканне прыватнай формы ўласнасці.

Дарэчы, усяго пару тыдняў таму ў Гомелі здарыўся скандал, звязаны з правядзеннем рэгіянальнай канферэнцыі «Дзелавы інтэрнэт», якую ладзілі партал tut.by сумесна з інтэрнэт-правайдэрам «АтлантТелеком». У апошні момант арганізатары прыбралі з праграмы выступ гомельскага рэгіянальнага каардынатара Руху "За Свабоду", заснавальніка абласной інтэрнэт-газеты «Моцныя навіны» Пятра Кузняцова, які першапачаткова быў запланаваны. Па словах арганізатараў, улады паставілі іх перад дылемай: або выступ Кузняцова выкрэсліваецца з праграмы, або канферэнцыя не атрымае памяшкання.

**Паводле сайта «Моцныя навіны»**

### БРЭСТ. СУД НЕ ЗАДАВОЛІЎ СКАРГУ НА ЧЫНОЎНІКА

**У Ленінскім судзе Брэста агучана рашэнне па скарзе актывіста Руху «За Свабоду» Сяргея Вакуленкі на намесніка старшыні гарвыканкаму Вячаслава Хафізава.**

Суд палічыў, што чыноўнік не парушыў закону аб зваротах грамадзян. «Скаргу пакінулі без задавальнення. Суддзя спаслаўся на тое, што выканкам, у адпаведнасці з артыкулам 15 Закону аб зваротах грамадзян, даў нам поўны адказ», — паведаміў грамадскі актывіст Сяргей Вакуленка.

Вакуленка скардзіўся на тое, што чыноўнік парушыў закон аб зваротах грамадзян: чыноўнік не даў на запыт актывістаў поўнай інфармацыі пра рэканструкцыю гандлёвага цэнтру «Масква» ў Брэсце. Сяргей Вакуленка кажа, што праз запыт у гарвыканкам яны хацелі даведацца, ці ўзгоднена рэканструкцыя будынка з Міністэрствам культуры.

«У нас ёсць копія дакументу, які абавязвае фірму «Санта-Сервіс» узгадніць працы з Міністэрствам культуры. Аднак у суддзе юрыст гарвыканкаму, які па дамоўленасці прадстаўляў інтарэсы Хафізава, нават і не ведаў пра такі дакумент. Наколькі мы разумеем, гарвыканкам абавязвае фірмы ўзгадняць рэканструкцыю будынкаў з Міністэрствам культуры, аднак выкананне гэтага ўзгаднення не кантралюе. Гэта можа быць пагрозай для гістарычнай спадчыны», — кажа Сяргей Вакуленка.

Мясцовы каардынатар Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк кажа, што рашэнне раённага суда бузе абскарджвацца ў вышэйшых інстанцыях.

**Паводле сайта Руху «За Свабоду»**

### СВЕТЛАГОРСК. ДЛЯ МЯСНІКОВІЧА ПАДЛОГУ МЫЛІ СПІРТАМ

**Старшыня Савета міністраў прыязджаў на светлагорскае вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно». Тут праходзіла нарада па пытаннях пераасназшчэння прадпрыемстваў канцэрна «Белнафтахім».**

«Міхаіл Мясніковіч непасрэдна на вытворчасці правёў хвілін сорак, — распавёў адзін з работнікаў. — У гэты час нам усім строга забаранілі выходзіць куды-небудзь на бачнае месца. Сказалі, што можам патрапіць на фота ці відэа не ў тым спецадзенні».

Не абышлося без дзіўнага навядзення парадку, адзначаюць відавочцы: «Каля завода штучнага валакна (адно са структурных падраздзяленняў «Хімвалакна») працаўнікоў начной змены выгналі на вуліцу разграбаць снег па праходу і складваць у акуратныя бардзюрчыкі».

Дзеля чысціні не пашкадавалі тэхнічнага спірту, які выкарыстоўваецца ў тэхналагічным працэсе. У цэху нетканых матэрыялаў спіртам мылі бетонную падлогу, каб выдаліць плямы.

10 студзеня рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Светлагорскае вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно» было пераўтворана ў адкрытае акцыянернае таварыства. Чакаецца, што змена формы ўласнасці дазволіць прыцягнуць новыя інвестыцыі і надасць развіццё прадпрыемству больш дынамізму.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## МІНЮСТ ПОЛЬШЧЫ ПАЧУЎ БЕЛАРУСКІХ АКТЫВІСТАЎ

**31 студзеня адбылася двухгадзінная размова прадстаўнікоў беларускіх і міжнародных арганізацый з кіраўніком палітычнага аддзела міністэрства Юстыцыі Польшчы Пётрам Дардзінскім.**

Сустрэча стала магчымая пасля агульнага звароту ў міністэрства прадстаўнікоў арганізацый Цэнтр «Супрацоўніцтва без межаў» Ігара Шчэкарэвіча, «Звязу на карысць дэмакратыі ў Беларусі» Анатоля Міхнаўца і «Еўрапейскай Беларусі» Зміцера Барадкі.

Беларускія актывісты абмеркавалі на сустрэчы тры галоўныя пытанні. Гэта перасled на працягу 12 гадоў судом у Беластоку беларускага апазіцыянера Андрэя Жукаўца, скандальнае рашэнне суда ў Быдгашчы аб фактычнай забароне бел-чырвона-белага сцяга на спартыўных мерапрыемствах у Польшчы і магчымасць скасавання дамовы аб беларуска-польскім прававым супрацоўніцтве, па якому Беларусі былі выдадзены банкаўскія дадзеныя Алеся Бяляцкага.

Як адзначыў прадстаўнік Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў» Ігар Шчэкарэвіч, гэта не апошняя такая сустрэча ў міністэрстве.

«Каб мы маглі пакрокава вырашаць тыя праблемы, якія зараз існуюць, было вырашана правесці яшчэ як мінімум адну сустрэчу. Было б наіўна думаць, што ўсе гэтыя праблемы магчыма вырашыць цягам адной размовы. Таму мы ўдзячныя, што Мінюст Польшчы пайшоў нам насустрач і размовы будуць працягвацца», — адзначыў Шчэкарэвіч.

Адзначым, што гэта не першая сустрэча на вышэйшым узроўні беларускіх актывістаў. 22 снежня 2011 года прадстаўнікі арганізацый сустрэліся з намеснікам генпракурора Польшчы Робертам Гернандам. Падчас сустрэчы былі абмеркаваны шматлікія факты парушэння правоў актывістаў беларускай апазіцыі з боку польскіх пракуратураў. Размову актывісты ацанілі яе як паспяховую.

**Прэс-служба Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў»**

---

ВЫСТАВА

## ПРОСТА ЖЫВАПІС

*Марат ГАРАВЫ*

**1 лютага ў мінскім Палацы мастацтва адкрылася выстава твораў Уладзіміра Сулкоўскага «Проста жывапіс», прысвечаная 60-годдзю мастака.**

У экспазіцыі прадстаўлены 45 твораў жывапісу і графікі, у тым ліку партрэты, тэматычныя карціны, краявіды і нацюрморты.

Як адзначыў намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці Сяргей Цімохаў, далікатнасць з'яўляецца характэрнай рысай Уладзіміра Сулкоўскага, які можа вытрымаць сваю пазіцыю і пры гэтым не пакрыўдзіць іншых людзей.

Паводле слоў старшыні суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў Генадзя Драздова, экспазіцыя сведчыць, што Уладзімір Сулкоўскі — мастак не толькі вельмі цікавы, але і сур'ёзны, удумлівы і адказны творца, кожная праца якога — цэлая сімфонія. «Ён здатны стварыць як эпічны, манументальны вобраз нашага краявіду, так і яго лірычны вобраз. Апошнім часам ён працуе над серый партрэтаў знакамітых беларускіх паэтаў і музыкаў. Характэрнай рысай яго творчасці з'яўляецца беларускасць. Гэта цяжка перадаць словамі, але ў кожнай працы бачна, што Сулкоўскі — гэта наш беларускі мастак. А гэта сёння надзвычай актуальна, паколькі ўсё беларускае церпіць татальны ўціск, вынішчаецца і не мае магчымасці рухацца наперад. Нягледзячы на гэта, разам з іншымі мастакамі «Пагоні» Сулкоўскі адстойвае нашы нацыянальныя каштоўнасці», — сказаў Драздоў. Ён назваў Сулкоўскага "адным з найлепшых беларускіх мастакоў XXI стагоддзя».

Сулкоўскі выказаў вялікую падзяку сваім настаўнікам — мастакам Георгію Камлюку, Анатолю Бараноўскаму і Гаўрыле Вашчанку, а таксама сваім сябрам, «з якімі, як кажуць, лягчэй ісці па жыцці».

Выстава працуе да 16 лютага.

---

ПРЭМІЯ

## ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ ТРЭЦІ РАЗ

**Штогадовую прэмію «Люблю Беларусь» заснаваў «Малады фронт», сёлета яна ўручаецца трэці раз.**

Журы, у склад якога ўвойдуць мінулыя пераможцы прэміі, вызначыць лепшых у васьмі намінацыях: «Беларусізацыя», «Палітыка», «Культура», «Грамадская чыннасць», «Журналістыка», «Змагар году», «Спорт» і «Pro-Belarus».

Сярод сёлетніх намінантаў — Ігар Случак, мабільны апаратар Life:), польскі палітык Марэк Мігальскі, рух Femen, Наталля Каляда, Вячаслаў Дзіянаў, Віктар Марціновіч, Сяргей Міхалок ды іншыя вядомыя і не надта беларусы і замежнікі. Агулам на атрыманне прэміі прэтэндуе больш за 50 чалавек.

Варта адзначыць, што галасаваць за пераможцаў сябры журы будуць па ўсіх намінацыях, апроч «Змагар году». «Малады фронт» вызначыў намінантаў у гэтай катэгорыі — Андрэй Пачобут, Мікіта Ліхавід, Андрэй Бандарэнка, Зміцер Галко, усе 16 палітычных зняволеных, якія застаюцца за кратамі. Аднак, на думку арганізатараў прэміі, было б некарэктна галасаваць за кагосьці з вышэйназваных асобаў, бо кожны з іх у мінулым годзе прадэманстраваў неверагодную сілу духа і мужнасць, прайшоў праз складаныя выпрабаванні. «Малады фронт» такім чынам адзначае ўсіх намінантаў.

У склад журы прапанавана ўвайсці мінулым лаўрэатам — Міхасю Пашкевічу, Андрэю Дынько, Мікалаю Халезіну, Алегу Гулаку, Ніне Шыдлоўскай, Алене Макоўскай, Лявону Вольскаму, Уладзіміру Някляеву і многім іншым. Вынікі галасавання стануць вядомымі 8 лютага.

Азнаёміцца з поўным спісам намінантаў, мінулымі пераможцамі і гісторыяй прэміі можна на старонцы 14by.info.

---

ЦІКАВА

## БЛОГ ПРЭМІІ ГЕДРОЙЦА

**1 лютага стартаваў блог Літаратурнай прэміі Гедройца.**

Ён даступны па адрасе http://bellitaward.blogspot.com.

У блогу будзе змяшчацца ўся інфармацыя, датычная літаратурнай прэміі, намінантаў, а таксама рэцэнзіі на кнігі, абраныя журы ў першым туры прэміі.

З асноўнымі палажэннямі прэміі можна азнаёміцца па адрасе http://bellitaward.blogspot.com/2012/01/blog-post.html

Абвешчаны анлайн-конкурс, удзельнікам якога прапануецца скласці свой шорт-ліст прэміі. Яго ўмовы змешчаны тут: http://bellitaward.blogspot.com/2012/01/blog-post_31.html

Прэс-канферэнцыя з нагоды абвяшчэння шорт-ліста прэміі адбудзецца 7 лютага а 14:00 на сядзібе Беларускага ПЭН-Цэнтру па адрасе г. Мінск, вул. Залатая горка 2–101. Вялікая просьба пацвердзіць свой удзел па тэлефонах (029) 6404679, (029)7508870 (Марыя Мартысевіч) або па мэйле penkonkurs@gmail.com.

**Па інфармацыі аргкамітэта Літаратурнай прэміі Гедройца.**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЖЫВЕМ ПАЦІХУ…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Безумоўна, цэнтральнай падзеяй тыдня стала тое, што Вікторыя Азаранка выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі па тэнісе — першы з чатырох у сезоне турніраў Вялікага шлема — і ўпершыню ў кар'еры і гісторыі беларускага тэніса стала першай ракеткай свету.**

Але цікава было назіраць за Аляксандрам Лукашэнкам, калі ён даведаўся пра перамогу Азаранкі. Ён бегаў з кута ў кут на гарналыжным курорце ў Сочы. І крычаў: «Налівай!» Гэты сюжэт паказалі па большасці цэнтральных тэлеканалаў.

Праўда, варта адзначыць, што ў далейшым было паказана, як Аляксандр Рыгоравіч адзначыў перамогу Азаранкі кубкам гарбаты, якую налілі з тэрмасу. Не ведаю, у каго як, але мне гэтая сітуацыя нагадала сюжэт з Стругацкіх: «Панядзелак пачынаецца ў суботу». Калі Камнаедаў інструктуе Прывалава перад начным дзяжурствам: «Не менш за два разы за перыяд дзяжурства наведайце віварый. Калі наглядчык п'е гарбату — спыніце. Былі сігналы: не гарбату ён там п'е».

Больш за тое, у кадр патрапіў і маленькі Коля Лукашэнка. У сувязі з гэтым журналісты задаліся пытаннем: а што там робіць Коля? Зараз не канікулы, ён павінен хадзіць у школу. Як вядома, з 1 верасня ў Беларусі дзейнічае новы Кодэкс аб адукацыі. У дакуменце ёсць цэлы раздзел, прысвечаны «дысцыплінарнай адказнасці навучэнцаў». У ім, у прыватнасці, сказана, што атрымаць пакаранне школьнік можа за «спазненне або няяўку на ўрокі без уважлівай прычыны». І гэта пакаранне можа быць у выглядзе заўвагі, вымовы і нават адлічэння са школы.

А тым часам апазіцыя ў чарговы раз аскандалілася. 31 студзеня журналістаў запрасілі на прэс-канферэнцыю з нагоды падпісання лідарамі дэмакратычнай «кааліцыі шасці» дэкларацыі «Аб грамадскай дыскусіі аб мэтах і формах удзелу беларускай апазіцыі ў выбарах 2012 года». Замест падпісання дэкларацыі аб стаўленні да выбараў прадстаўнікі суб'ектаў апазіцыйнай кааліцыі ледзь не распачалі бойку.

Як кажуць, блакаваў падпісанне агульнага дакумента сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі, паводле слоў якога, тэкст дэкларацыі быў падрыхтаваны Рухам «За Свабоду», але ўзгоднены не з усімі ўдзельнікамі кааліцыі.

Пасля завяршэння нарады адбылася сутычка паміж Рымашэўскім і каардынатарам кампаніі «Гавары праўду!» Аляксандрам Фядутам. Рымашэўскі, нібыта, абразіў Фядуту, а той у адказ даў яму выспятка ў азадак. І толькі калегі па кааліцыі разнялі гэтых «байцовых пеўняў».

Сапраўды, зладзіць на голым месцы скандал, ды яшчэ перад журналістамі, — трэба мець шмат розуму. Зараз я разумею кіраўніка краіны, які казаў, што іншай апазіцыі яму не трэба.

А тым часам Беларусь жыве сваім жыццём. Па выніках 2011 года рост спажывецкіх цэн у Беларусі аказаўся ад 12 да 54 разоў большы, чым у іншых краінах былога СССР.

За год цэны павялічыліся ў Беларусі на 108,7%, ці ў 2,09 разу. У астатніх краінах гэты паказчык не дасягнуў двухзначнай велічыні. У Таджыкістане цэны павысіліся на 9,3%, у Малдове — на 7,8%, Казахстане — на 7,4%, Расіі — на 6,1%, Кыргызстане — на 5,7%, Азербайджане — на 5,4%, Туркменістане — на 5,3%, Арменіі — на 4,7%, Украіне — на 4,6%, Латвіі — на 4%, Эстоніі — на 3,7%, Літве — на 3,4%, Грузіі — на 2%.

Такім чынам, рост цэн у Беларусі перавысіў рост цэн у Таджыкістане ў 11,7 разу, Малдове — у 13,9, Казахстане — у 14,7, Расіі — у 17,8, Кыргызстане — у 19,1, Азербайджане — у 20,1, Туркменістане — у 20,5, Арменіі — у 23,1, Украіне — у 23,6, Латвіі — у 27,2, Эстоніі — у 29,4, Літве — у 32, Грузіі — у 54,4 разу.

З 1 лютага 2012 года абанентам сетак сотавай сувязі стала даступная паслуга пераносу абанецкага нумара (mobile number portability; MNP). Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве сувязі і інфарматызацыі.

«Паслуга пераносу абанецкага нумара дазваляе абаненту захаваць свой нумар пры пераходзе ад аднаго аператара сотавай рухомай электрасувязі да другога. Для гэтага абанент падае аператару-донару заяву на аказанне паслугі пераносу абанецкага нумара на падставе якога, пры адсутнасці запазычанасці і нявыкананых абавязацельстваў з боку абанента, у базе звестак перанесеных нумароў афармляецца запыт аб аказанні гэтай паслугі», — растлумачылі ў Мінсувязі. Пасля гэтага абанент павінен заключыць дагавор з новым аператарам.

Як зазначаюць у Мінсувязі, перанос абанецкага нумара павінен займаць не больш як тры працоўныя дні. Абанент мае права на працягу 30 дзён з моманту падачы гэтай заявы да звяртання да іншага аператара адмовіцца ад паслугі і аднавіць абслугоўванне па дагаворы і абанецкага нумара ў аператара-донара. Пераходзіць да іншых аператараў з захаваннем нумара абаненту будзе можна не часцей, чым раз на 90 дзён.

Пры званку абаненту з перанесеным нумарам той, хто звоніць, будзе папярэджаны галасавым паведамленнем пра тое, што выклік накіроўваецца ў іншую сетку. Пры адпраўцы SMS у іншыя сеткі папярэджанняў выдавацца не будзе.

Паслугу пераносу нумара аказваюць толькі тры GSM-аператары (МТС, life:) і velcom). Яна даступная для ўсіх абанентаў — фізічных і юрыдычных асоб. Але ж за змену аператара абаненту давядзецца заплаціць: на гэты момант у МТС паслуга каштуе 15 тысяч рублёў, у аператара velcom — 79 тысяч рублёў, life:) — бясплатна.

У Беларусі 1 лютага 2012 года максімальныя розничныя цэны на асобныя маркі цыгарэт павялічваюцца ў сярэднім на 3–15%. Цэны на цыгарэты І цэнавай групы (да 175 тысяч рублёў за тысячу штук) засталіся без змяненняў.

У ІІ цэнавай групе (175–335 тыс. рублёў за тысячу штук) павышаны цэны на цыгарэты: «Monte Carlo» — на 10% да 5,5 тыс. рублёў за пачак, «COOPER» — на 14,6% да 4,7 тыс., «West» — на 3,3% да 6,2 тыс. рублёў, «Golden Gate» — на 8,9% да 4,9 тыс. рублёў за пачак.

У ІІІ цэнавай групе (ад 335 тыс. беларускіх рублёў за тысячу штук) павышаны цэны на цыгарэты: «Winston XS» — на 5,3% да 7,9 тыс. рублёў за пачак, «Winston Super Slims» — на 4,3% да 7,7 тыс. рублёў, «Winston» — на 7,1% да 7,5 тыс., «Glamour Super Slims» — на 4,3% да 7,2 тыс. рублёў, «West Fusion» — на 5,3% да 7,9 тыс. рублёў за пачак.

Устаноўлена максімальная розничная цана на цыгарэты «Kent Nanotek» — 9,5 тыс. рублёў за пачак.

Істотная прычына для таго, каб кінуць паліць!




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА

Беларуска Вікторыя Азаранка стала першай ракеткай планеты. У апублікаваным 30 студзеня новым рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі (WTA) 22-гадовая мінчанка паднялася на два радкі ў параўнанні з папярэднім спісам і займае 1-е месца, маючы 8 585 балаў. Гэтага поспеху лепшая беларуская тэнісістка дамаглася ўпершыню пасля перамогі 28 студзеня ў Мельбурне на першым у гэтым сезоне турніры ў серыі «Вялікага шлема» — адкрытым чэмпіянаце Аўстраліі. У гэтым сезоне Вікторыя Азаранка яшчэ не прайгравала, атрымаўшы перамогі яшчэ і на спаборніцтвах у Сіднеі. Другое месца ў дзясятцы сусветнага рэйтынгу належыць Пятры Квітавай (Чэхія), трэцяе — Марыі Шарапавай (Расія).

У 2005 годзе Вікторыя Азаранка ўзначальвала моладзевы рэйтынг WTA. А з 2004 года ўзнялася ў дарослым рэйтынгу ўверх на 501 прыступку.

«Хачу сказаць дзякуй сваёй камандзе, якая зрабіла ўсё, каб я дамаглася гэтага выніку. Вялікую ролю ў маёй перамозе адыграла падтрымка сяброў, сваякоў, бацькоў і бабулі, а таксама майго бойфрэнда. Дзякуй спонсарам, арганізатарам, валанцёрам, суддзям і, вядома, заўзятарам. Я вельмі рада, што зрабіла гэта», — сказала Азаранка падчас цырымоніі ўзнагароджання.



### АЛЯКСАНДР РАДЗЬКОЎ

Старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь», намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў заявіў, што гэты год для «Белай Русі» стане пераломным.

На сустрэчы з актывам першаснай арганізацыі ААТ «Белшына» Аляксандр Радзькоў адзначыў, што «як для ўсёй краіны, так і для руху 2011 быў няпросты, але гэта не паўплывала на грамадзянскую пазіцыю абсалютнай большасці членаў аб'яднання». Пацвярджанне гэтаму — дынаміка росту колькасці членаў аб'яднання, стварэнне новых першасных арганізацый у рэгіёнах. «Толькі ў 2011 годзе колькасць павялічылася амаль на 15 тысяч чалавек», — сказаў ён.

Аляксандр Радзькоў расказаў, што ёсць перспектыва пераўтварэння аб'яднання ў партыю. Яшчэ ў 2011 годзе прадстаўнікі Шклова прапанавалі пераўтварыць аб'яднанне ў Партыю народнага адзінства. Аляксандр Радзькоў лічыць, што для кожнага пераўтварэння неабходна вырасці, выспець. «Нельга спяшацца, бо наша арганізацыя — гэта грамадская сіла, памылкі якой будуць вельмі адчувальныя для ўсяго грамадства», — сказаў ён. Увосень гэтага года ў краіне пройдзе чарговы з'езд РГА «Белая Русь».

### БІ–2



Гурт «Бі–2» (заснаваны напрыканцы 1980-х гадоў у Бабруйску) апынуўся ў спісе забароненых у Беларусі музыкаў. Пра гэта распавялі самі музыкі падчас свайго нядаўняга візіту ў Кіеў. Выканаўцам, якія знаходзяцца ў гэтым спісе, праблематычна атрымаць канцэртную пляцоўку, выступіць на беларускім радыё або тэлебачанні. Праблемы ў музыкаў пачаліся летам 2011 года, піша bagnet.org.

Падчас аднаго з выступаў, перад выкананнем песні «Феліні», якую «Бі–2» запісалі сумесна з піцерскай групай «Сплін», музыкі сказалі, што прысвячаюць гэтую песню «шматпакутнаму беларускаму народу». Ужо праз некалькі дзён адзін за адным пачалі адмяняцца канцэрты, запланаваныя гуртом у Беларусі. Арганізатары пад рознымі падставамі адмаўлялі артыстам у прадстаўленні канцэртных пляцовак, так што ад гастроляў давялося адмовіцца. Асабліва абурэння з нагоды гэтай сітуацыі музыкі не выказвалі, хоць і зрабілі невялікую рэмарку ў бок музыкі, якая, на іх думку, павінна заставацца па-за палітыкай.

У сакавіку мінулага года ў інтэрнэце з'явіўся спіс дзеячаў культуры, згадка якіх у афіцыйных СМІ непажадана. Паведамлялася, што спіс без пячатак і подпісаў выдалі ўсім рэдактарам афіцыйных СМІ і радыёстанцый. У дадзены спіс патрапілі як беларускія дзеячы культуры, так і прадстаўнікі Расіі і краін далёкага замежжа.

Ад Беларусі ў спіс увайшлі гурты «Ляпіс Трубяцкой», «Палац», «Крама». «N.R.M.», «Нейра Дзюбель», «Крамбамбуля», «Naka», увесь склад беларуска «Свабоднага тэатра», пісьменніца Вольга Іпатава, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, паэты Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў і Анатоль Вярцінскі, мастак Аляксей Марачкін, драматургі Уладзімір Халіп і Андрэй Курэйчык, кінарэжысёр Юры Хашчавацкі і Уладзімір Колас.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ДА ВЫБАРАЎ ГАТОВЫЯ — КОЖНЫ ПА-СВОЙМУ

Вольга ХВОІН

**Апазіцыйныя лідары не могуць дамовіцца аб фармаце ўдзелу ў выбарах. Некаторыя прапануюць байкот, некаторыя — удзельнічаць і зняцца, калі не будуць выкананыя пэўныя ўмовы. Парламенцкія выбары ў Беларусі павінны прайсці не пазней 25 верасня. Выбарчая кампанія пачнецца ў чэрвені.**



«Кааліцыя шасці» планавала 31 студзеня падпісаць пагадненне, у якім быў бы вызначаны план сумесных дзеянняў апазіцыі на выбарах. У «кааліцыю шасці» ўваходзяць Партыя БНФ, Аб'яднаная грамадзянская партыя, партыя левых «Справядлівы свет», афіцыйна незарэгістраваная партыя «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Рух «За Свабоду», а таксама грамадзянская кампанія «Гавары праўду!». Аднак дакумент падпісаны не быў.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька прынёс журналістам выбачэнні за сарваную прэс-канферэнцыю, дзе і мусілі абвесціць вынікі перамоў. «Прыношу прабачэнні, што вас адарвалі ад нейкіх важных спраў. Да выбараў мы гатовыя, але кожны гатовы па-свойму. Не ўсё атрымліваецца ў палітыцы адразу, як хочацца, — заўважыў Лябедзька, і дадаў, што трэба правесці яшчэ адзін раўнд перамоў: — Калі рашэнне нараджаецца складана і цяжка, яно можа быць больш эфектыўным, чым тое, якое прымаецца лёгка, а потым нікім не выконваецца. У нашай краіне вельмі лёгка падпісваюць усе паперы і потым ніхто іх не выконвае. Трэба, каб у мяне з жонкай была згода ва ўсім, а ў палітыцы гэта не абавязковая рэч, галоўнае — каб быў вынік».

Па словах Анатоля Лябедзькі, аптымальнай формулай падпісантаў пагаднення кааліцыі была б «шэсць плюс», а «пяць мінус адзін» ці «чатыры плюс два» — не самая лепшая. Палітык гаворыць, што ўмовамі супрацы ёсць два крытэрыі — эфектыўнасць і маральнасць. Дэкларацыю гатовыя былі падпісаць усе ўдзельнікі кааліцыі, акрам БХД.

«Права на выбар заменена яго імітацыяй, а сам электаральны працэс ператварыўся ў фарс, прычым дзяржава нават не лічыць неабходным гэта хаваць. Дэмакратычныя сілы гатовыя да сумленнай барацьбы за дэпутацкія мандаты, але на сапраўдных свабодных выбарах, — гаворыцца ў дэкларацыі. Чаму ў такім выпадку абмяркоўваецца магчымасць удзелу ў выбарах? Бо прапісаная ў заканадаўстве працэдура з'яўляецца адзінай законнай магчымасцю на працягу трох месяцаў быць у кантакце з выбаршчыкамі. Менавіта гэтая магчымасць, а не «фармальнае дэпутацтва», і ёсць мэтай удзелу апазіцыі ў выбарах 2012 года.

У апазіцыйным лагеры ёсць і прадстаўнікі ідэі татальнага байкоту.

Прыхільнікі байкоту перакананыя: нельга ўдзельнічаць у спектаклі, якога няма. Адпаведна, калі апазіцыйныя палітыкі заяўляюць, што выбараў няма, то якім чынам яны збіраюцца ў іх удзельнічаць? Па задуме, байкот «выбарчага фарсу стане фактычна рэферэндумам аб недаверы Лукашэнку і першым крокам да адлучэння дыктатара ад улады». Адзін з арганізатараў кампаніі байкоту Віктар Івашкевіч падкрэслівае, што з'езд БХД і палітрада Аб'яднанай грамадзянскай партыі раней прынялі рашэнне правесці актыўны байкот. Такое ж рашэнне прыняла і палітрада АГП. Адпаведна, на думку Івашкевіча, партыйцы мусяць быць паслядоўнымі, трымацца свайго рашэння і не весці цяпер перамоў з калегамі па цэху аб фармаце ўдзелу ў выбарах.

Таксама Івашкевіч мяркуе, што ўльтыматум апазіцыянераў зняцца з выбараў, калі не вызваляць палітвязняў, адкладае вызваленне вязняў сумлення да восені. Арганізатары байкоту заклікаюць сваіх прыхільнікаў не чакаць, калі Лідзія Ярмошына дасць старт выбарчай кампаніі, а «ісці ў бытоўкі да сантэхнікаў ЖЭСаў ужо цяпер».

Ідэю байкоту падтрымалі Рада беларускай інтэлігенцыі, грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь», незалежны прафсаюз РЭП.

Разам з тым кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына раней заяўляла, што яна «абсалютна ўпэўненая — ніякага байкоту парламенцкіх выбараў у Беларусі не будзе». «Асновай існавання ўсіх палітычных сілаў, якія ў нас называюцца апазіцыйнымі, з'яўляюцца тыя замежныя інвестыцыі, якія яны атрымліваюць па праграме развіцця дэмакратыі. Калі яны не будуць удзельнічаць у выбарах і праводзіць якія-небудзь палітычныя акцыі, гэтыя сродкі (а гэта іх заробатная плата) ім не будуць вылучацца. Таму, я думаю, усе гэтыя заявы з'яўляюцца спробамі запалохаць уладу, прычым вельмі неперакнаўчымі», — сказала яна.

Ярмошына адзначыла, што пагрозы байкоту выбараў гучаць напярэдадні кожнай выбарчай кампаніі. «Як правіла, заклікі да яго зыходзяць ад сіл, якія пазіцыянуюць сябе апазіцыйнымі. Толькі адзін раз у 2000 годзе на парламенцкіх выбарах рэальна ажыццяўляўся байкот з боку некаторых апазіцыйных партый. За мінулыя 11 гадоў, нягледзячы на заявы, ніхто дзеянняў па байкоту не рабіў», — адзначыла старшыня ЦВК.

Кіраўнік Цэнтрвыбаркаму мяркуе, што насельніцтва перш за ўсё зацікаўлена не ў палітычным разнастайнасці, а ва ўстойлівым сацыяльна-эканамічным існаванні дзяржавы. Калі насельніцтва будзе добра жыць у гэтай дзяржаве, то яго, па сутнасці, менш за ўсё будзе хваляваць, хто знаходзіцца ва ўладзе. «Для насельніцтва Беларусі, як і жыхара любой еўрапейскай краіны, галоўным з'яўляецца ўласнае дабрабыт», — гаворыць Ярмошына.

### ПАЛІТОЛАГ АНДРЭЙ КАЗАКЕВІЧ:



— Рашэнне ўдзельнічаць ці не ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах у тых умовах, што мы цяпер маем, залежыць выключна ад таго, якія меты ставяць перад сабой палітычныя суб'екты. І толькі адштурхоўваючыся ад гэтага ёсць сэнс абіраць стратэгію дзеянняў. Калі ёсць мэта атрымаць прадстаўніцтва ў парламенце, хаця гэта залежыць не ад кандыдатаў у дэпутаты, то трэба ісці і максімальна працаваць. Калі ставіцца мэта толькі інфармацыйнай кампаніі, то можна абраць стратэгію байкоту.

Вельмі істотны момант — наяўнасць рэсурсаў. Канешне, лепш актыўна ўдзельнічаць і выкарыстаць усе дазволеныя механізмы. Але для гэтага мусяць быць фінансавыя і арганізацыйныя рэсурсы. Калі гэтых рэсурсаў няма, то больш рацыянальна выкарыстоўваць варыянт байкоту.

Я хутчэй не згодны з тэзай: «Калі ёсць палітвязні, то няма маральнага права ўдзельнічаць у выбарах». Мне падаецца, што відавочнай сувязі паміж гэтымі пунктамі няма. Не бачу ніякага этычнага моманту, што перашкаджаў бы ўдзелу ў выбарчай кампаніі, працы з выбарцамі. Калі палітычны суб'ект удзельнічае ў кампаніі, гэта не значыць што ён аўтаматычна займаецца легітымізацыяй рэжыму ці прызнае, што ў палітычнай сістэме Беларусі ўсё нармальна.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЧАМУ МАЎЧАЦЬ БЕЛАРУСКІЯ АДВАКАТЫ?

**Беларускім адвакатам рэкамендавана ўзгадняць свае інтэрв'ю журналістам з кіраўніцтвам юрыдычных кансультацый, у якіх яны працуюць. Пра гэта гаворыцца ў накіраваным ва ўсе абласныя і Мінскую гарадскую калегіі адвакатаў лісце за подпісам старшыні Рэспубліканскай калегіі адвакатаў (РКА) Віктара Чайчыца.**




Рэкамендавана таксама ўсклasці на намеснікаў старшыняў прэзідыумаў калегій адвакатаў абавязак вывучаць інтэрв'ю сваіх адвакатаў, а інфармацыю пра іх накіроўваць у РКА па электроннай пошце. Як адзначаецца ў лісце, дадзеныя рэкамендацыі зробленыя ў сувязі з тым, што «часта ў СМІ, часцей электронных, з'яўляюцца інтэрв'ю асобных адвакатаў са скажонай, у тым ліку па віне журналістаў, інфармацыяй».

Як заявіў БелаПАН юрыст Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйла, у БХК чулі пра існаванне падобнага ліста і «вельмі негатыўна» ставяцца да падобных рэкамендацый, якія супярэчаць гарантаванай Канстытуцыяй свабодзе слова. «Яна можа быць абмежаваная толькі акалічнасцямі, якія апісаны ў законе. Ніякая службовая асоба не мае права замахвацца на гэтую свабоду, гэта парушэнне, якое павінна пераследавацца па законе», — сказаў ён.

Гары Пятровіч падкрэсліў, што РКА «выконвае ўжо даўно карныя функцыі, а не абараняе правы і інтарэсы адвакатаў». Юрыст звярнуў увагу на тое, што фігура адваката і яго праца з'яўляюцца публічнымі, таму «любое абмежаванне адвакатаў на прадстаўленне інфармацыі павінна абмяжоўвацца толькі правіламі прафесійнай этыкі і законам».

У той жа час, падкрэсліў Паганяйла, узнікаюць пытанні: чаму беларускія адвакаты маўчаць, і як яны могуць прынцыпова і годна абараняць іншых грамадзян, калі яны не хочуць абараніць саміх сябе? «Патрэбна такая адвакатура? Я вельмі абураны, што адвакаты не тое што не могуць, а не хочуць сябе абараняць. Няўжо яны так запалоханыя, што не могуць адстойваць свае правы? Гэта ж ганьба, каб на абарону прафесійных праваабаронцаў, якімі з'яўляюцца адвакаты, якія атрымліваюць за сваю праваабарончую працу грошы, уставалі іншыя людзі, грамадскія праваабаронцы, якімі мы з'яўляемся», — сказаў Паганяйла.

«Старшыня Рэспубліканскай калегіі адвакатаў не адважыўся наўпрост забараніць інтэрв'ю і выступленні ў прэсе, паездкі адвакатаў за мяжу з адукацыйнымі мэтамі. Разам з тым, любому адвакату зразумелыя тыя наступствы, якія могуць надысці, калі гэтая рэкамендацыя будзе парушаная, — адзначыў у інтэрв'ю інтрнэт-парталу zautra.by юрыст Павел Сапелка, якога летась пазбавілі адвакацкай ліцэнзіі. — Гэта ўжо не першая спроба такім чынам адрэгуляваць узаемаадносіны адвакатаў з прэсай.

У Мінскай гарадской калегіі адвакатаў, як распавёў Павел Сапелка, падобныя рэкамендацыі з'явіліся пасля 19 снежня 2010 года. Па прагнозах юрыста, цяпер ні адзін адвакат не стане даваць якую-небудзь ацэнку тым ці іншым дзеянням суда, пракуратуры, міліцыі.

У 2011 годзе шэраг адвакатаў, якія абаранялі фігурантаў справы аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года, былі пазбаўленыя ліцэнзій.

ЭКАЛОГІЯ

# ТОРФ ЗАМЕСТ ПАВЕТРА

Вольга ХВОІН

**Глабальны экалагічны фонд можа адмовіцца ад супрацоўніцтва з Беларуссю. Прычына ў тым, што забалочаныя на грошы ГЭФ тэрыторыі ўрад хоча аддаць пад распрацоўку торфу, бо ёсць дзяржаўныя праграмы павелічэння торфаздабычы.**

Летась Савет міністраў прыняў пастанову №794 ад 17 чэрвеня, у якой вызначаныя перспектыўныя радовішчы для здабычы торфу. Але знаходзяцца яны ў асабліва ахоўных тэрыторыях: біялагічным заказніку мясцовага значэння «Марочна», рэспубліканскі ландшафтным заказніку «Выганашчанскае», рэспубліканскім біялагічным заказніку «Дакудаўскі». Усяго восем мясцовых і рэспубліканскіх заказнікаў. Абсурднасць у тым, што ў некаторыя з гэтых балот былі ўкладзеныя немалыя сродкі на іх аднаўленне пасля глабальнай праграмы асушэння за савецкім часам. Урад Беларусі вырашыў аднавіць праграму па асушэнню балот, каб часткова забяспечыць краіну ўласнымі энергарэсурсамі. Яшчэ адной нагодай для павелічэння аб'ёмаў здабычы торфу стала нарошчванне магутнасцяў беларускіх цэментных заводаў, для працы якіх вырашылі выкарыстоўваць торф.

Вядучы навуковы супрацоўнік Навукова-практычнага цэнтра па біярэсурсах Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Казулін адзначае: без балот Беларусь зменіцца незваротна.

«У чым значэнне прыродных балот: захаванне і падтрыманне запасаў чыстай прэснай вады, падтрыманне станоўчага вугляроднага балансу, падтрыманне біярэжыму рэк, змякчэнне кліматычных анамалій і, канешне ж, захаванне біялагічнай разнастайнасці, — распавядае навуковец. — Калі прапагандавалі, што ў Беларусі ёсць 4,4 мільярды тон запасу торфу, то ўрад паверыў і пачаў новую дзяржпраграму па здабычы торфу. Але, калі пачалі разбірацца, дзе ж тыя запасы, і Мінпрыроды даручылі разабрацца, колькі ў нас торфу, то выявілася, што 1,58 мільярда тон — землі сельскагаспадарчых угоддзяў, ахоўваемыя тэрыторыі 0,7 мільярда тон; 0,48 мільярда тон знаходзяцца на плошчах, якія цяпер распрацоўваюцца. Яшчэ 1,48 мільярда тон знаходзіцца на неразмеркаваных тарфяніках, але яны маленькія, плошчаю да ста гектараў, і там няма сэнсу будаваць нейкія заводы, гэта эканамічна не выгадна. У Беларусі больш няма магчымасці здабываць торф у буйных маштабах, гэта нерэальна. І быццам бы гэта ўсім зразумела, апроч Саўміна, не разумеюць і некаторыя дзеячы, якія прапагандуюць здабычу торфу».

Практычна ўсе буйныя балоты Беларусі знаходзяцца на асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях. Натуральна, там забароненыя асушэнне і здабыча торфу. І намеры беларускіх уладаў пачаць там распрацоўку торфу выклікалі міжнародны скандал.

«Першапрычына гэтага ў тым, што няма агульнай нацыянальнай стратэгіі адносінаў да балот, і яе трэба тэрмінова распрацаваць сумесна з Міністэрствам энергетыкі, Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Міністэрствам лясной гаспадаркі, трэба распрацаваць такую стратэгію, зрабіць спіс усіх балот з указаннем, як іх можна выкарыстоўваць, — тлумачыць супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Казулін. — Якія праблемы ўзнікаюць у сувязі з арганізацыяй здабычы торфу? Гэта абмяленне рэк, недахоп прэснай вады, пагаршэнне экалагічнай сітуацыі, павялічэнне выдзялення $CO_2$, праблемы з рэалізацыяй міжнародных канвенцый. І ў Глабальным экалагічным фондзе, калі даведаліся, што творыцца ў Беларусі, напісалі ліст у прадстаўніцтва ААН у Беларусі аб тым, што няма ўстойлівасці праектаў — грошы ўкладзеныя ў праекты, а тут жа пішуць планы зноў здабываць там торф. Ідуць разборкі, але яшчэ не скончыліся».

**Амаль усе буйныя балоты Беларусі знаходзяцца на асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях. І намеры беларускіх уладаў пачаць там распрацоўку торфу выклікалі міжнародны скандал**

Аляксандр Казулін адзначае, што нават калі будуць скасаваныя ахоўваемыя тэрыторыі, то торфу ўсё адно хопіць гадоў толькі на 30–40, а потым у Беларусі будзе пустыня.

У Беларусь працаваць на балотах прыязджаюць навукоўцы з іншых краінаў. Спадарыня Анэт Ціле з Германіі ўжо некалькі год працуе ў Беларусі ў праектах, звязаных з аднаўленнем балот. Яна захапляецца ўнікальнасцю гэтых тэрыторый, гаворыць, што, дзякуючы вялікай біялагічнай разнастайнасці, інфармацыю пра беларускія балоты можна выкарыстоўваць як базу для далейшай працы ў іншых краінах.

«Высокія людзі» ў Інстытуце прыродакарыстання сказалі, што тут многа торфу, і давайце мы яго будзем здабываць. Потым яны паглядзелі больш падрабязна, дзе знаходзіцца гэты торф, а гэты торф знаходзіцца на асабліва ахоўных тэрыторыях, на балотах, якія былі забалочаныя наноў на міжнародныя грошы. Канешне, калі міжнародны донар дае грошы на забалочванне, а дзяржава потым вырашае гэта вяртаць у ранейшы стан, асушаць, то такія дзеянні не выклікаюць радасці ў донара. І цяпер ГЭФ думае далей займацца беларускімі балотамі, чымсьці іншым ці ўвогуле нічога не рабіць», — распавядае спадарыня Анэт.

***

Начальнік упраўлення біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Наталля Мінчанка паведаміла, што сёлета Беларусь плануе накіраваць тры заяўкі ў сакратарыят Рамсарскай канвенцыі на ўключэнне асабліва ахоўных тэрыторый у спіс водна-балотных угоддзяў міжнароднага значэння. Паводле яе слоў, гэта тэрыторыі «Марочна», «Астравы Дулебы — Заазер'е», «Стары Жадзен».

Цяпер у спіс ужо ўключаныя дзевяць асабліва ахоўных прыродных тэрыторый — Бярэзінскі біясферны запаведнік, заказнікі «Званец», «Ельня», «Спораўскі», «Простыр», «Асвейскі», «Альманскія балоты», «Сярэдняя Прыпяць», «Котра» агульнай плошчай каля 371 гектара, піша БелаПАН.

Мінчанка паведаміла, што цяпер на разглядзе сакратарыята знаходзіцца заяўка аб уключэнні ў Рамсарскі спіс заказніка «Выганашчанскае». Паводле яе слоў, Беларусь плануе прыняць удзел у 11-м пасяджэнні канферэнцыі бакоў Рамсарскага канвенцыі, якая пройдзе ў ліпені 2012 года ў Бухарэсце.

Таксама ў 2011 годзе ў рамках дзяржпраграмы развіцця сістэмы асабліва ахоўных прыродных тэрыторый былі падрыхтаваныя прадстаўленні аб аб'яўленні чатырох заказнікаў рэспубліканскага значэння («Даўжбітка-Свіная», «Стары Жадзен», «Барысаўскі», «Свіслацка-Бярэзінскі»), а таксама па пераўтварэнню заказнікаў «Тырвовічы» і «Сарачанскія азёры». Падрыхтаваная прапанова аб аб'яўленні трансгранічнага біясфернага рэзервата «Асвейскі — Чырвоны Бор — Себежскі».




ЖЫЦЦЁ

# І НАСТРОЙ, І БЯДА

**У сталічным рэстаране «Добров» 31 студзеня ў рамках конкурсу «Прадукт года — 2011» адзначылі дзень нараджэння гарэлкі. Разам з тым нагадаем, што па колькасці спажывання алкаголю на душу насельніцтва Беларусь перайшла крытычную мяжу, вызначаную Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя.**

Вядучы свята артыст Аляксандр Вергуноў распавёў, што 31 студзеня 1865 года хімік Дзмітрый Мендзялееў абараніў доктарскую дысертацыю «Аб злучэнні спірту з вадой». З тых часоў гэты дзень лічыцца днём нараджэння гарэлкі.

Гісторык і аўтар кнігі пра старабеларускую кухню Алена Мікульчык распавяла гісторыю з'яўлення гарэлкі ў Беларусі. У прыватнасці, па яе словах, гарэлку выпускалі памешчыкі, і яна была розных смакаў: анісавая, яблычная, слівовая і г. д. Вялікай папулярнасцю карысталіся настойкі на травах і ягадах. Гарэлку ў корчмах падавалі вёдрамі, паколькі шкляная бутэлька была вялікай рэдкасцю, у іх прывозілі заморскія віны. Мікульчык распавяла таксама аб традыцыйных беларускіх закусках пад гарэлку.

Знаўцы і аматары кулінарыі далі парады па правільным ужыванні папулярнага спіртнога напою.

«Піць трэба абавязкова ў кампаніі, у адзіночку — гэта ўжо алкагалізм. Абавязкова мусіць быць нагода, мера, закускі. Запіваць моцныя спіртныя напоі не рэкамендуецца, асабліва чымсьці шыпучым — гэта ўзмацняе дзеянне алкаголю», — мяркуе галоўны рэдактар газеты «Гастроном», старшыня аргкамітэта конкурсу «Прадукт года» Ігар Данілаў.

Паводле яго слоў, гарэлка ў жыцці беларускага народа — гэта «і настрой, і бяда, і свята, і гора — без гарэлкі нікуды». «Па еўрапейскіх і амерыканскіх дадзеных, нацыя пачынае дэградаваць, калі спажывае больш за 7 літраў



абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва. Кажуць, што ў славянскіх народаў гэтая лічба перавалія за 12 літраў, таму будзем рабіць высновы. Або не будзем іх рабіць», — пажартаваў Данілаў.

«Піць можна, але ў межах нормы», — сцвярджае дырэктар рэстарана «Добров» Андрэй Дабравольскі. Ён рэкамендуе выпіваць гарэлку ў спалучэнні з таматавым сокам і закусваць свежапрыгатаваным мясам.

Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта за 2011 год, у Беларусі спажываецца 13,3 літра чыстага алкаголю на душу насельніцтва. Па дадзеных СААЗ, гранічным парогам для спажывання алкаголю на чалавека ў год вызначаны аб'ём 8 літраў. Калі гэты парог пераадолены, то ў грамадстве і дзяржаве пачынаюцца сур'ёзныя праблемы.

У 2011 годзе рэалізацыя гарэлкі павялічылася на 18,1% у параўнанні з 2010 годам. Прададзена 12 мільёнаў 174,6 тысяч дал гарэлкі, яе доля ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 46,4% (у 2010 годзе — 42,8%).

Піва за мінулы год прададзена 34 мільёна 593,8 тысячы дал, на 10,8% больш аналагічнага паказчыка 2010 года. Доля гэтага напою ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 13,2% (за 2010 год — 13%).

Лікёра-гарэлачных вырабаў рэалізавана 2 мільёна 199,9 тысячы дал (больш на 30,7%), вінаградных він — 3 мільёна 93,3 тысячы дал (больш на 11,3%), пладова-ягадных він і вінных напояў — 15 мільёнаў 595,9 тысячы дал (менш на 8,1%). Пладовыя віны занялі 26,8% у аб'ёме продажу алкагольнай прадукцыі (у 2010 годзе — 31,7%).

Каньяку і брэндзі прададзена 315 тысячы дал (больш на 18,3%), пеністых вінаў і шампанскага — 1 мільён 469,7 тысячы дал (больш на 18,2%), слабаалкагольных напояў — 838,5 тысячы дал (менш на 33,6%).

Раней Генеральная пракуратура Беларусі выступіла з прапановаю да ўрада забараніць выпуск пладова-ягадных мацаваных вінаў нізкай якасці, продаж алкагольных напояў асобам, маладзейшым за 21 год, рэкламу алкагольных напояў і піва. Таксама прапануецца істотна абмежаваць колькасць месцаў рэалізацыі моцных спіртных напояў, укараніць працэдуру абавязковага тэставання старшакласнікаў і студэнтаў на прадмет ужывання наркатычных сродкаў і алкаголю ды ўзмацніць антыалкагольную сацыяльную прапаганду.

АПЫТАННЕ

# ЧЫТАЕМ РАЗ НА ГОД

Вольга ХВОІН

**Пачнём з жыццёвай гісторыі з блогу кнігарні «ЛогвінаЎ».**





У будынку, дзе цяпер месціцца кнігарня, раней быў прыёмны пункт шклотары. Часам наведвальнікі старой установы заходзяць туды па звычцы. І вось якую гісторыю распавяла гандлярка кнігарні.

Заходзіць у кнігарню падпіты чалавек. Дый, відаць, не першы год падпіты. Аглядаецца, на твары адбіваецца ледзь не ўся гама пачуццяў, ад здзіўлення-захаплення да расчаравання-роспачы. Стаіць, маўчыць. Пытаюся, ці падказаць яму што-небудзь. Ён, шукаючы ў прасторы асобу, што гаворыць, летуценна прамаўляе:

— А я гастраном ішчу...

— А тут вось кнігарня, — кажу.

Ён сфакусаваў на мне позірк і гаркнуў:

— Бачу, што кнігарня! Ішчу-та гастраном!

Напярэдадні Года кнігі Саюз беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да сацыялагічнай лабараторыі «Новак» з просьбай правесці апытанне, каб даведацца, колькі чытаюць беларусы, што іх цікавіць. Верыць ці не вынікам гэтага апытання — справа асабістая.

- Беларусы чытаюць мала. Ніколі не бярэ ў рукі кнігу трэцяна насельніцтва (33,7%). Палова беларусаў кніг не купляе, у лепшым выпадку пры патрэбе пазычаюць у знаёмых ці бяруць у бібліятэцы.
- Сучасную замежную літаратуру (у першую чаргу расійскую) ведаюць лепей за сваю. 62% апытаных наогул не цікавяцца беларускімі кнігамі. Істотная частка (13,3%) зусім не ўмее чытаць па-беларуску.
- На пытанне пра тое, якіх сучасных беларускіх пісьменнікаў ведаюць, найчасцей называюць імёны, якія сталі знакавымі яшчэ за савецкім часам: Васіля Быкава (6,5%), Уладзіміра Караткевіча (3,8%), Івана Шамякіна (3,2%). Пераважная ж большасць не ведае нікога (74,6%). Для параўнання: у сучаснай масавай расійскай літаратуры беларусы абазнаныя значна лепей. 17,8% ведаюць, хто такая Дар'я Данцова.
- Што да густаў, то ў безумоўных лідарах дэтэктывы — ім аддаюць перавагу 38,3% аматараў чытання, 28,1% калі і бяруць у рукі кнігу, то гэта жаночы раман. Кнігу класіка з паліцы здымаюць 26,5% ад усіх беларусаў, якія чытаюць хаця б раз на год.
- На думку нашых суайчыннікаў, зрабіць беларускую літаратуру больш папулярнай маглі б цікавыя аўтары і творы (52,4%), іх большая жанравая разнастайнасць (27,2%), а таксама лепшая рэклама (22,9%).
- Ніводнай сучаснай беларускай пісьменніцы не змаглі назваць 84,9% апытаных. Першая ж шасцёрка названых выглядае так: Святлана Алексіевіч (2,8%), Цётка (2,5%), Валярына Кустава (2,1%), Раіса Баравікова (1,5%), па 1,1% набралі Наталля Батракова і Яўгенія Янішчыц.

А вось сярод айчынных пісьменнікаў, якіх беларусы не проста ведаюць, але і любяць чытаць: Васіль Быкаў (7,4%), Уладзімір Караткевіч (7,4%), Якуб Колас (5,5%), Янка Купала (3,9%) і Іван Мележ (2,9%).

- Сітуацыя з замежнымі аўтарамі лепшая. Іх не ведаюць і не любяць чытаць «усяго» 48,7% і 39% адпаведна. Улюбёныя небеларускія пісьменнікі: Дар'я Данцова (11,3%), Аляксандра Марыніна (5,6%), Таццяна Усцінава (3,4%), Леў Талстой (2,5%) і Юлія Шылава (2%).

### Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч:



— Вынікі апытання, як і чакалася, — не самыя прыемныя. Выяўляецца, што літаратурныя імёны-брэнды савецкіх часоў беларусы дагэтуль памятаюць, а вось новых так і не з'явілася. Гэта значыць, што той курс, які ўзяла Беларусь у культурнай сферы, — малаэфектыўны.

Год кнігі — добрая нагода, каб аб'яднаць высілкі дзяржавы і грамадскіх арганізацый дзеля змены сітуацыі. Самы важны клопат дзяржавы ў галіне культуры — падтрымліваць мову карэннай нацыі краіны. Гэта тычыцца ўдасканалення і пашырэння школьных праграм па мове і літаратуры, павелічэння колькасці адукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання, стварэння, нарэшце, цалкам беларускамоўнага Нацыянальнага ўніверсітэту.

Абсалютная большасць беларусаў дагэтуль спажывае інфармацыю праз тэлебачанне. Але на беларускім тэлебачанні няма беларускай кнігі, няма беларускіх аўтараў, ды і наогул беларускай мовы збольшага няма. Такім чынам, інфармацыя пра новыя кнігі і новых аўтараў не даходзіць да чытачоў.

Палітыка беларускай дзяржавы павінна стаць беларусалюбнай. Ну а пісьменнікам розных саюзаў трэба часцей і без перашкод сустракацца з чытачамі, каб папулярызаваць лепшае са створанага.

# ГРАМАДСТВА ЧЫТАЮЧЫХ ПЕНСІЯНЕРАЎ

**Пра патрэбы беларусаў у духоўным набытку і кошт кнігі ў пераводзе на кілбасу «НЧ» распавёў дырэктар выдавецтва «Беларускі кнігазбор» Генадзь ВІНЯРСКІ:**



***— Мінулы год для эканомікі краіны і дабрабыту яе грамадзян быў абвальным. Як гэтыя катаклізмы адбіліся на выдавецкай дзейнасці?***

— Калі ацэньваць наша выдавецтва, то мы, наадварот, летась спрацавалі лепш. У нас стабільная тэндэнцыя — цягам года выпускаем 70–100 найменняў кніг. Але летась мы выдалі больш кніг на замову, а не серыйных. А сёлета як замоўцы знойдуцца, так і будзем працаваць. Хаця агульная эканамічная сітуацыя паўзеўніз, грошай у людзей стала менш — найперш выдаткоўваюцца сродкі на аплату камунальных паслуг, на ежу. А на духоўнае ўжо як атрымаецца.

Прыватныя асобы, якія звяртаюцца да нас, выдаюць кнігі ці за ўласныя сродкі, ці з дапамогай спонсараў. Дык у гэтай сітуацыі і спонсараў стала менш, бо ніхто цяпер не раскідвацца грашамі — эканомяць, нейк імкнуцца зарабак працаўнікам павялічыць. Сабекошт кнігі, натуральна, падвысіўся. У сакавіку 2011 года мы выдалі кнігу Вінцука Адважнага з нашай серыі, яе сабекошт быў 25 тысяч, кошт продажу — каля 30 тысяч. Думаю, цяпер сабекошт такой кнігі каля сямідзесяці тысяч, а ў продажы яна з'явіцца па цане блізу ста тысяч рублёў. І людзі, найперш маральна, некаторыя не будуць гатовыя да гэтага.

Канешне, той, хто сапраўды цікавіцца кнігай, будзе яе набываць у любым выпадку. І мы б хацелі знайсці нейкага фундатара, каб зменшыць выдаткі нашых чытачоў. Тым больш, што наш патэнцыйны чытач — пенсіянер, студэнт, супрацоўнік установ адукацыі, культуры. Гэтыя людзі не маюць высокага прыбытку. Мне падаецца, што з дапамогай ахвярадаўцаў можна было б зрабіць, каб кніга ў цвёрдай вокладцы каштавала блізу пяцідзесяці тысяч рублёў. Часам мы нават гаворым пакупнікам, што кніга каштуе як батон кілбасы ці кілаграм сыру. Гэта нямнога, калі ўлічыць, колькі часу трэба, каб яе напісаць і выдаць! Мы не прыніжаем такім чынам вартасць кнігі, але спрабуем данесці людзям, што цана насамрэч не высокая. Канешне, ёсць кнігі-аднадзёнкі — бульварныя раманы, якія выходзяць на таннай паперы, вялікімі накладамі і таму каштуюць менш.

Калі ж гаварыць пра беларускамоўную кнігу, то не трэба забывацца і пра тое, што ў Беларусі ідзе татальная палітыка русіфікацыі, з'явіўся інтэрнэт — хаця б я і не стаў перабольшваць яго ролю, жыццё сціснулася, і многа часу ад нас вымагае праца, штодзённыя клопаты... Усё гэта скарачае колькасць чытачоў. Дарэчы, менавіта пенсіянеры, бо маюць многа вольнага часу, і сталі самай чытаючай часткай нашага грамадства.

***— Вы працуеце ў выдавецкай справе ад сярэдзіны 1990-х гадоў, распавядзіце, як змяніліся наклады кніг, густы чытачоў?***

— Наклады кніг тады даходзілі да дзесяці тысяч экзэмпляраў. Цяпер жа, калі атрымаецца прадаць пяцьсот-семсот асобнікаў — вельмі добра. І кнігарні сталі ў разы менш прадаваць. Аптымальныя наклады для зборнікаў паэзіі, сучаснай прозы — двесце-трыста экзэмпляраў. Калі прыцягнуць рэсурс бібліятэк, што звычайна робіцца на перыферыі, то наклад можна павялічыць. Раней такія беларускія энтузіясты, як Уладзімір Арлоў, Зміцер Бартосік аб'едуць усю краіну і без праблем прададуць кнігі. Зараз накладныя расходы такіх праездаў перавышаюць выгоду ад продажу кніг, ды і з клубам мясцовым, навучальнай установай няпроста дамовіцца на арганізацыю творчага вечара. Я б адзначыў і той факт, што раней кнігарні былі самастойнымі суб'ектамі з уласнымі банкаўскімі рахункамі. Пастаўляеш ім кнігі — і атрымліваеш разлік. А цяпер амаль усе кнігарні належаць сістэме Белкнігі, цяжэй пастаўкі рабіць па прызначэнню. Заўважу, на паліцах кнігарняў восемдзесят працэнтаў займаюць расійскія выданні.

***— Як мяркуеце, ці стае беларускай літаратуры сваіх цікавых аўтараў і твораў?***

— Прыкладна семдзесят адсоткаў тых людзей, што прыходзяць у нашае выдавецтва, прыносяць якасную літаратуру. Але любой літаратуры трэба рабіць прамоцыю — аўтара прадставіць чытачу, урыўкі з кнігі апублікаваць. Чалавек мусіць мець уяўленне, што за кнігу ён набывае. У савецкі час нават па тэлебачанню распавядалі пра навінкі кніжнага рынку, была развітая сістэма літаратурнай крытыкі, плённа працавала бюро прапаганды мастацкай літаратуры пра Саюзе пісьменнікаў. Цяпер хіба што маладыя аўтары самі сябе неяк піяраць, саюзы пісьменнікаў як бы там ні было, сталі па розныя бакі ідэалогіі.

Я мяркую, што маладой плыні паэтаў варта карыстацца сучаснымі тэхналогіямі для прасоўвання сваіх твораў — начытваць вершы і прадаваць аўдыёверсіі. Гэта надае каларыту, заўжды цікава пачуць аўтарскі голас, інтанацыю. Увогуле, ёсць прыклады, калі пісьменнікі, дзякуючы свайму імпэту і актыўнасці, прадаюць і тысячу экзэмпляраў. Кнігу трэба не толькі напісаць і выдаць, а яшчэ і ўмець данесці да спажыўца.

***— Калі прыходзіш у кнігарню, то палічкі з беларускамоўнай дзіцячай літаратурай маленькія. Усе кнігі спрэс рускамоўныя. Пустуе ніша дзіцячай беларускай літаратуры?***

— Так, рынак хутчэй пусты, чым поўны. Зусім нядаўна пачалі з'яўляцца цікавыя казкі. Раней чамусьці нашы аўтары да вершаваных твораў для дзяцей схіляліся, ды гэтая форма даволі складаная маленькаму чалавеку для ўспрыняцця. Для дзіцяці кніжка, як і цукерка, — мусіць быць прыгожай, з яркай вокладкай, вялікімі ілюстрацыямі. Некаторыя беларускія выданні сапраўды гэтаму афармленню адпавядаюць. Яшчэ важна, каб аўтар зразумеў псіхалогію і філасофію дзіцяці, каб змест кнігі быў блізкі і зразумелы, а не былі фантазіі адарванага ад дзіцячага свету пісьменніка. Беларуская дзіцячая літаратура толькі пачынае свой шлях.

***— Што «Беларускі кнігазбор» рыхтуе сёлета для сваіх чытачоў?***

— Мы працягваем выдаваць нашых класікаў. У свет выйдуць зборы твораў Алеся Адамовіча, Цішкі Гартнага, Анатоля Грыцкевіча, Кастуся Тарасава. Класіка для Беларусі бадай што найбольш запатрабаваная. Яшчэ цяпер карыстаецца папулярнасцю краязнаўчая і мемуарная літаратура. Сучасная літаратура — яна «для абмежаванай тусоўкі». Хочам мы ці не, але большая частка насельніцтва Homo Sovieticus з кансерватыўнымі густамі і поглядамі, таму новыя літаратурныя плыні не адразу знаходзяць свайго чытача.

***— Прыадкрыйце таямніцу выдавецкай справы: малады пісьменнік хоча выдаць сваю кнігу. Колькі грошай яму трэба назбіраць на сваё «літаратурнае дзіця»?***

— Часам нашы выдавецтвы пішуць, што тысячны і больш наклад кнігі таго ці іншага аўтара разышоўся як гарачыя піражкі — тое звычайна чысты піяр! Калі малады пісьменнік і, як кажуць, вядомы ў пэўных колах, прадасць трыста кніг, то будзе страшна шчаслівы! Маладым аўтарам трэба ўлічваць свае магчымасці для продажу. Я б раіў замаўляць двесце-трыста экзэмпляраў. Выданне ў кардоннай вокладцы трохсот кніг па дзвесце восем старонак будзе каштаваць блізу васьмі мільёнаў.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 6 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Рамантычная камедыя «Мымра».
**13.40** Мультфільм.
**14.00** Дак.-біяграфічны цыкл «Мая праўда».
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Культурныя людзі.
**15.55** Да цешчы на бліны.
**16.30** Відэафільм АТН «Шчучынскі апокрыф» цыклу «Зямля беларуская».
**16.40** Хранікальна-дакументальны цыкл «Нябачны фронт» (Беларусь).
**16.55** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.45, 01.30** Зона Х.
**19.35** Арэна.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.45** Дзень спорту.
**21.50** Камандзіроўка.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.05** Клуб рэдактараў.
**00.00** Трылеры «Забойствы на рацэ Грын».

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Падлоўчы».
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Вялікая розніца».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.05** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.05** «Закрытыя за мяжой».
**00.05** «След».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.10** «Далёкія сваякі».
**13.30** «24 гадзіны».
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Фільм «Брат 2». Расія, 2000 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Прафесійны бокс».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00, 21.20** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.30** Школа рамонту.
**11.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.35** Эксцэнтрычная камедыя «Ніхто не ведае пра сэкс-2» (Расія).
**14.20** Серыял «Маргоша» (Расія).
**16.10** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**16.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.00** Калыханка.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.00** Авертайм.
**23.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**00.20** Серыял «Маргоша» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** «Даведнік».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Разлучніца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** М/ф «Стрэл у спіну».
**12.20, 22.05** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40, 02.00** «Саюзнікі».
**19.20** «Усюды жыццё».
**19.50** «Сардэчна запрашаем».
**20.30** «Беларусь сёння».
**21.30, 05.25** «Свет спорту».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».

### Discovery CHANNEL

**05.00** Махінатары на трасе: Land Rover.
**05.25, 10.00, 00.55** Гіганцкія будоўлі.
**06.20** Патрабуецца зборка: серыя 39.
**06.50** Як гэта зроблена?: серыя 6.
**07.15, 07.45** Дэмантаж.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Круты цюнінг: серыя 7.
**10.55** Пэн і Тэлер, праўда і хлусня: серыя 4.
**11.50** Чаму? Пытанні светабудовы: пячорныя людзі: серыя 2.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear: серыя 2.
**13.40, 04.05** Круты цюнінг: серыя 8.
**14.35** Махінатары на трасе: Citroen. Частка 1.
**15.05** Зброя будучыні.
**17.00** Патрабуецца зборка: серыя 40.
**17.30, 03.40** Як гэта зроблена?: серыя 7.
**19.00, 00.00** Залатая ліхаманка: серыя 2.
**20.00** Вугаль: серыя 2.
**21.00** Рыба-меч: жыццё на гаплiку.
**22.00, 22.30** Дэмантаж.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы: серыя 51.
**03.10** Патрабуецца зборка: серыя 40.

### EUROSPORT

**10.30, 11.45, 17.00, 18.15** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый. 1/4 фіналу.
**13.00** Снукер. German Masters. Берлін. Фінал.
**14.30, 22.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 134.
**15.30, 03.00** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Мас-старт. Осла.
**16.15** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Мас-старт. Осла.
**19.30, 02.00** Футбол. Часопіс.
**20.30** Футзала. Чэмпіянат Еўропы. 1/4 фіналу. Першы матч. Харватыя.
**22.45** Вось дык так!!!
**23.00** Пра рэстлінг. Агляд WWE.
**23.45** Пра рэстлінг. Vintage Collection. ЗША.
**00.45** Пад грыфам «сакрэтна». Часопіс.
**01.15** Футзала. Чэмпіянат Еўропы. 1/4 фіналу. Другі матч. Харватыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40, 17.25** Зона «Свабоды».
**08.10** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 12 серыя.
**08.55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**09.10** Фільматэка майстроў: «Хаатычная Ана», драма, 2007 г., Іспанія.
**11.10** ПраСвет.
**11.30** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**12.00, 14.30** Эксперт.
**12.30** Зона «Свабоды».
**13.00** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 2 серыя, «Марцін Лютэр Кінг. Смерць у Мэмфісе».
**13.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**15.00** Фільматэка майстроў: «Хаатычная Ана», драма, 2007 г., Іспанія.
**17.00** «Мой родны горад», серыял.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 2 серыя, «Марцін Лютэр Кінг. Смерць у Мэмфісе».
**18.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.05** Вагон.
**19.10** «Алег Трусаў», рэпартаж.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Вагон.
**20.30** «Тэра постсаветыка. Школа кадэтак», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Прыватная калекцыя.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Хаатычная Ана», драма, 2007 г., Іспанія.
**23.55** Аб'ектыў.
**00.20** Гарачы каментар.

## 7 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія- Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Арэна.
**12.35** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**12.45** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**13.45** Мультфільм.
**13.55** «Толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камандзіроўка.
**15.40** Скрынка перадач.
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.55** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.45, 01.05** Зона Х.
**19.30** Сфера інтарэсаў.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія- Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.15** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.20** Спартовая драма «Хардбол» (ЗША-Германія).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Маэстра ў джынсах».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** «Несакрэтныя матэрыялы».
**23.40** «Зваротны адлік».
**00.10** «След».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** Фільм «Брат 2». Расія, 2000 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Гульня слоў». ЗША-Германія.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** «Знахар». Серыял.
**21.25** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «NEXT-2». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**09.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**10.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**11.40** Авертайм.
**12.10** Кінаспробы.
**12.45** Дэтэктыў «Другі бок» (Казахстан).
**14.20** Серыял «Маргоша» (Расія).
**16.10** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**16.55** Цела чалавека.
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Драма «Буш» (ЗША).
**21.05** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.00** Спорт-кадр.
**23.40** Серыял «Маргоша» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** Д/с «Дом з гісторыяй».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 03.30** Т/с «Разлучніца».
**09.05** «Агульны рынак».
**09.25** «Агульны інтарэс».
**10.05, 11.05** М/ф «Развітальная гастроль «Артыста».
**12.20, 22.05** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Аляксандраўскі сад».
**21.25, 05.25** «Дыяспары».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Усюды жыццё».

### Discovery CHANNEL

**05.00** Махінатары на трасе: Citroen. Частка 1.
**05.25** Гіганцкія будоўлі.
**06.20** Патрабуецца зборка: серыя 40.
**06.50** Як гэта зроблена?: серыя 7.
**07.15** Дэмантаж: Сцэны, рамы, пракладкі.
**07.45** Дэмантаж: Ахоўная адзежа.
**08.10** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Круты цюнінг: серыя 8.
**10.00** Гіганцкія будоўлі.
**10.55** Залатая ліхаманка: серыя 2.
**11.50** Вугаль: серыя 2.
**12.45** Top Gear: серыя 3.
**13.40** Круты цюнінг: серыя 9.
**14.35** Махінатары на трасе: Citroen. Частка 2.
**15.05** Робаты-ваяры.
**16.00** Разбуральнікі легенд.
**17.00** Як гэта ўладкавана?
**17.30** Як гэта зроблена?: серыя 8.
**18.00** Top Gear: Серыя 3.
**19.00** Гіганцкія будоўлі.
**20.00** Грандыёзныя пераезды: серыя 2.
**21.00** Кітай: Старажытны Пекін.
**22.00, 22.30** Дэмантаж.
**23.00** Top Gear: Серыя 3.
**00.00, 00.55** Гіганцкія будоўлі.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы: серыя 52.
**03.10** Як гэта ўладкавана?
**03.40** Як гэта зроблена?: Серыя 8.
**04.05** Круты цюнінг: Серыя 9.

### EUROSPORT

**10.30** Футбол. Часопіс.
**11.30, 12.45** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый. 1/4 фіналу.
**14.00, 20.45** Вось дык так!!!
**15.00, 02.30** Тэніс. Турнір WTA. Парыж. Дзень 2.
**21.00, 01.30** Снукер. German Masters. Берлін. Фінал.
**22.30** Еўраспорт. Пад грыфам «сакрэтна». Часопіс.
**23.00** Бокс.
**01.00** Ралі. Ралійная серыя IRC. Агляд.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Вяселле», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**09.15** «Мой родны горад», серыял.
**09.40** Прыватная калекцыя.
**10.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** «Алег Трусаў», рэпартаж.
**11.00** «Тэра постсаветыка. Школа кадэтак», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.25** «Ранча», серыял: 28 серыя.
**12.10** «Мой родны горад», серыял: 22 серыя.
**12.35** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.05** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2008», канцэрт: выступ гурта «IQ48».
**13.40** «Тэра постсаветыка. Школа кадэтак», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.05** «Вяселле», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**15.45** «Алег Трусаў», рэпартаж.
**16.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**16.25** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 23 серыя.
**17.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**19.00** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**20.40** Беларусы ў Польшчы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 6 серыя.
**22.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Гарачы каментар.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 8 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** Зброя.
**13.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**14.00** Мультфільм.
**14.10** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма аб турызме.
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.55** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.50** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.45, 00.55** Зона Х.
**19.30** Зямельнае пытанне.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.05** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.20** Дэтэктыўная драма «Разлік».

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** Асяроддзе пасялення.
**00.10** «Наша Беларашa».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Знахар». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.50** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-2». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** «Знахар». Серыял.
**21.25** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «NEXT-2». Серыял.
**00.50** «Справа асаблівай важнасці».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Спорт-кадр.
**10.40** Цела чалавека.
**11.15** Наперад у мінулае.
**11.50** Прыгодніцкі фільм «Нібелунгі» (Германія-ЗША-Вялікабрытанія). 1-я серыя.
**13.40** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.30** Бухта капітанаў.
**16.10** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**16.55** Ясі і худзей.
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.).
**18.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Беларуская часіна.
**22.35** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.05** Серыял «Маргоша» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05, 20.45** «Кыргызстан у асобах».
**05.20** Д/с «Формула поспеху».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Разлучніца».
**09.25** «Даведнік».
**10.05, 11.05** М/ф «Чорны трыкутнік».
**12.20, 22.05** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Аляксандраўскі сад».
**21.25, 05.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Сардэчна запрашаем».

### Discovery Channel

**05.00** Махінатары на трасе: Citroen. Частка 2.
**05.25** Гіганцкія будоўлі.
**06.20, 17.00, 03.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?: серыя 8.
**07.15, 07.45** Дэмантаж.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Круты цюнінг: серыя 9.
**10.00, 10.55** Гіганцкія будоўлі.
**11.50** Грандыёзныя пераезды: серыя 2.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear: серыя 4.
**13.40** Круты цюнінг: серыя 10.
**14.35** Махінатары на трасе: Бэнтлі. Частка 1.
**15.05** Страх і жах.
**17.30** Як гэта зроблена?: серыя 9.
**19.00** Выжыць любым коштам.
**20.00** Выжыць разам.
**21.00** Лесапавал на балотах: серыя 13.
**22.00, 22.30** Дэмантаж.
**00.00** Выжыць любым коштам.
**00.55** Гіганцкія будоўлі.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы: серыя 53.
**03.40** Як гэта зроблена?: серыя 9.
**04.05** Круты цюнінг: серыя 10.

### Eurosport

**10.30** Алімпійскі часопіс.
**11.00** Лёгкая атлетыка. «Фотафініш».
**11.15** Снукер. German Masters. Берлін. Фінал.
**13.00** Футзала. Чэмпіянат Еўропы. 1/4 фіналу. Чацвёрты матч. Харватыя.
**14.00** Тэніс. Турнір WTA. Парыж. Дзень 2.
**15.00** Тэніс. Турнір WTA. Парыж. Дзень 3.
**19.00, 22.00, 03.00** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый. 1/2 фіналу.
**21.00** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый. Агляд.
**00.00, 01.50** Абранае па серадах.
**00.05** Конны спорт. Кубак свету. Коннае скачковае шоў. Бардо.
**01.05** Навіны коннага спорту.
**01.10** Гольф. Катар Мастэрс. Доха.
**01.40** Гольф клуб. Навіны гольфа.
**01.45** Яхт клуб. Навіны ветразевага спорту.
**02.00** Цырымонія ўручэнне ўзнагарод Сусветнай Спартовай Акадэміі. Абу-Дабі.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пуаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**08.25** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Змітра Вайцюшкевіча з «W-Z аркестрам».
**09.00** «Мой родны горад», серыял.
**09.25, 14.25** На колах.
**09.50, 14.55** Рэпартэр.
**10.15** Асабісты капітал.
**10.35, 15.45** Эксперт.
**11.05** Беларусы ў Польшчы.
**11.20** «Ранча», серыял: 29 серыя.
**12.10** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Змітра Вайцюшкевіча з «W-Z аркестрам».
**12.40** Euromaxx.
**13.10** «Пуаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**14.00** «Мой родны горад», серыял.
**15.20** Асабісты капітал.
**15.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.15** Беларусы ў Польшчы.
**16.30** Euromaxx.
**17.00** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**17.25** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Ратаўнікі», серыял: 6 серыя.
**18.45** Вагон.
**18.50** Хто ёсць кім?: «Зінаіда Бандарэнка».
**19.10** Асабісты капітал.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Праект «Будучыня».
**20.25** Навігатар.
**20.45** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Quo Vadis», тэлесерыял: 2 серыя.
**22.35** Два на два (тэледыскусія).
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** Гарачы каментар.

## 9 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**10.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Зямельнае пытанне.
**12.35** Зброя.
**13.00** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**14.00** «Здароўе». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Зона камфорту.
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.55** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.45, 01.10** Зона Х.
**19.35** Сфера інтарэсаў.
**20.00** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.20** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.20** Драма «Свае» (Расія).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** Прэм'ера АНТ: «Твая тэрыторыя».
**00.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Знахар». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-2». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі «. Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** «Знахар». Серыял.
**21.25** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Кубак Дэвіса». Беларусь-Малдова. Дзённік.
**23.10** «Праўда».
**23.45** «Аўтапанарама».
**00.05** «NEXT-2». Серыял.
**01.00** «Яшчэ не вечар».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Страсці па культуры.
**10.40** Ясі і худзей.
**11.15** Вышэй за дах.
**11.50** Жансавет.
**12.30** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Нібелунгі» (Германія-ЗША-Вялікабрытанія). 2-я серыя.
**14.10** Серыял «Маргоша». Закл. серыі.
**16.15** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**17.00** Ясі і худзей.
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Фільм-катастрофа «Паслязаўтра» (ЗША).
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.00** Час футболу.
**23.40** Серыял «Маргоша» (Расія). Заключныя серыі.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** Д/ф «Дом з гісторыяй».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.25** «Сардэчна запрашаем.
**10.05, 11.05** М/ф «Чорны трыкутнік».
**12.20, 22.05** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Паляванне на Берыю».
**21.25, 05.25** «Злачынствы і пакаранне».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Беларусь сёння».

### Discovery Channel

**05.00** Махінатары на трасе: Бэнтлі. Частка 1.
**05.25** Гіганцкія будоўлі.
**06.20** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?: серыя 9.
**07.15** Дэмантаж.
**07.45** Дэмантаж.
**08.10** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Круты цюнінг: серыя 10.
**10.00** Гіганцкія будоўлі.
**10.55** Рыба-меч: жыццё на гапліку.
**11.50** Выжыць разам.
**12.45** Top Gear: серыя 5.
**13.40** Круты цюнінг: серыя 11.
**14.35** Махінатары на трасе: Бэнтлі. Частка 2.
**15.05** Снайперскія вінтоўкі.
**16.00** Разбуральнікі легенд.
**17.00** Як гэта ўладкавана?
**17.30** Як гэта зроблена?: серыя 10.
**18.00** Top Gear: серыя 5.
**19.00** Хлопцы з гарматамі.
**20.00** Нічога асабістага.
**21.00** Рос Кэмп: экстрэмальны свет: серыя 2.
**22.00, 22.30** Дэмантаж.
**23.00** Top Gear: серыя 5.
**00.00** Хлопцы з гарматамі.
**00.55** Гіганцкія будоўлі.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы: серыя 54.
**03.10** Як гэта ўладкавана?
**03.40** Як гэта зроблена?: серыя 10.
**04.05** Круты цюнінг: серыя 11.

### Eurosport

**10.30, 15.00** Тэніс. Турнір WTA. Парыж. Дзень 3.
**12.00, 13.30** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый.1/2 фіналу.
**16.00, 19.45, 21.00, 03.00** Тэніс. Турнір WTA. Парыж. 1/8 фіналу.
**00.30** Еўраспорт. Пад грыфам «сакрэтна». Часопіс.
**01.00** Покер. Агляд.
**02.00** Вось дык так!!!

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Quo Vadis», тэлесерыял: 2 серыя.
**08.20** «Ратаўнікі», серыял: 6 серыя.
**09.00** «Машына зменаў», тэлесерыял: 2 серыя.
**09.30** Праект «Будучыня».
**09.55** Навігатар.
**10.15** Хто ёсць кім?: «Зінаіда Бандарэнка».
**10.30** Два на два (тэледыскусія).
**10.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.15** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл: 2 серыя.
**11.30** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.00** «Quo Vadis», тэлесерыял: 2 серыя.
**12.45** «Ратаўнікі», серыял: 6 серыя.
**13.30** «Машына зменаў», тэлесерыял: 2 серыя.
**13.55** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.25** Навігатар.
**14.40** Хто ёсць кім?: «Зінаіда Бандарэнка».
**14.55** Два на два (тэледыскусія).
**15.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.45** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл: 2 серыя.
**15.55** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Касі Камоцкай.
**16.25** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял: 4 серыя.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басаног па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Сталічная штучка ды правінцыялка».
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 12 серыя.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Euromaxx.
**20.25** Эксперт).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм, 2009 г., Францыя: 1 серыя.
**22.45** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 12 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

---

**07.00** Прыгодніцкая камедыя «Трое ў каноэ» (ЗША).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.15** Да цешчы на бліны.
**10.50** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.10** Камедыйная меладрама «Афоня» (СССР).
**13.55** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.45** Дак. серыял «У пошуках скарбаў».
**16.35** Прэм'ера. Лірычная камедыя «Мой любімы раздалбай» (Расія).
**18.10** Суперлато.
**19.00** Прыгодніцкая камедыя «Знаёмства з Факерамі» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Біяграфічная драма «Несмяротная ўмілаваная» (Вялікабрытанія-ЗША).

---

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.15** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.50** «Шалапутныя нататкі».
**10.10** Пакуль усе дома.
**11.05** Фазэнда.
**11.40** «Холад. У пошуках неўміручасці».
**12.35** Фільм «Міміно».
**14.25** Прыгодніцкі фільм «Піраты XX стагоддзя».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.35** «Эстрадны кактэйль».
**17.45** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**18.55** «Вялікая розніца».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. «Дзве зоркі».
**22.35** «Yesterday life».
**23.05** Меладрама «Раўніна, што палае».

---

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.35** «Вялікі сняданак».
**11.15** Фільм «Кліент». ЗША, 1994 г.
**13.30** «Добры дзень, доктар».
**14.05** Фільм «Формула кахання». СССР.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Пажарны сабака». ЗША-Канада, 2007 г.
**22.35** «Кубак Дэвіса». Беларусь-Малдова. Дзённік.
**22.45** «Прафесійны бокс».
**23.45** Фільм «Валізкі Тульса Люпера». 2003 г.

---

**08.20** Прыступкі Веры.
**08.35** Размова са Святаром.
**08.45** Кожны мае права быць розным.
**09.15** Музычны фільм-казка «Руды, сумленны, закаханы». 2-я серыя.
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.50** Вышэй за дах.
**12.25** Шоў «Інтуіцыя».
**13.30** Бухта капітанаў.
**14.10** Біятлон. Кубак свету. Змяшаная эстафета. Прамая трансляцыя.
**15.40** Кінаспробы.
**16.15** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Астан Віла - Манчэстэр Сіці. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**22.10** Рамантычная камедыя «Дабранач» (ЗША).
**23.45** Шоў «Інтуіцыя».

---

**05.00, 02.05** Д/ф «Станіслаў Расціцкі».
**05.50, 03.00** М/ф «Волга-волга».
**07.55** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40** Т/с «Агенцтва «Залатая куля».
**13.00** Д/с «Доказы віны».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10** Юбілейны канцэрт «Я люблю цябе, Расія!».
**16.30** «Простыя лікі».
**17.00** Т/с «Каханне і іншыя дурасці».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** М/ф «Змеялоў».
**23.25** «Паўночнікі».
**23.55** М/ф «Анёл-знішчальнік».
**01.15** «Навіны садружнасці. Культура».

---

**05.00** Вокамгненныя катастрофы: серыі 53–54.
**05.55** Новы свет.
**06.50** Разбуральнікі легенд.
**07.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?: серыя 8.
**08.40** Залатая ліхаманка: серыя 2.
**09.35** Вугаль: серыя 2.
**10.30** Выжыць разам.
**11.25** Пэн і Тэлер, праўда і хлусня: серыя 5.
**12.20** Разбуральнікі легенд: серыя 175.
**13.15** Чаму? Пытанні светабудовы.
**14.10** Выжыць любым коштам.
**15.05** Піватары.
**16.00, 16.30, 17.00, 17.30** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**18.00** Класіка з Паўднёвага пляжу: серыя 5.
**18.30** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**19.00** Разбуральнікі легенд: серыя 175.
**20.00** Хлопцы з гарматамі.
**21.00** Нічога асабістага.
**22.00** Рос Кэмп: экстрэмальны свет: серыя 2.
**23.00, 23.30** Дэмантаж.
**00.00** Лесапавал на балотах: серыя 13.
**00.55** Разбуральнікі легенд.
**01.50** Новы свет.
**02.45** Як гэта ўладкавана?
**03.10** Кітай: Старажытны Пекін.
**04.05** Грандыёзныя пераезды: серыя 2.

---

**10.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск/камбінацыя. Сочы.
**11.15** Лыжнае двухборства. Кубак свету. Скачкі з трампліна. HS 140. Алматы.
**11.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам.
**12.30** Лыжнае двухборства. Кубак свету. Гонка па сістэме Гундэрсена. Алматы.
**13.00, 18.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Жанчыны. 4 х 5 км класічным ходам.
**14.15** Біятлон. Кубак свету. Змяшаная эстафета.
**15.45** Санкавы спорт. Чэмпіянат свету. Камандныя спаборніцтвы. Альтэнберг.
**16.45, 01.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 145.
**19.00** Лёгкая атлетыка. Міжнародныя спаборніцтвы ў памяшканні. Карлсруэ.
**20.30** Тэніс. Турнір WTA. Парыж. Фінал.
**21.30, 02.30** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый. Фінал.
**00.00** Бокс. Турнір Bigger's Better. Фінал.

---

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 12 серыя.
**08.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.40** Калыханка для самых маленькіх.
**09.10** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.20** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** Асабісты капітал.
**10.35** Два на два (тэледыскусія).
**11.05** «Дваццаць першая секунда», дак. фільм, 2008 г., Сербія.
**12.00** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**12.30** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл: 2 серыя.
**12.45** «Тэра постсаветыка. Школа кадэтак», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.10** Калыханка для самых маленькіх.
**13.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**13.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**14.05** «Хвацкая», маст. фільм, 1993 г., ЗША.
**15.50** «Дваццаць першая секунда», дак. фільм, 2008 г., Сербія.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**18.00** Прыватная калекцыя.
**18.35** Два на два (тэледыскусія).
**19.05** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 9 серыя.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 3 серыя. «Смяротны запавет міру Магатмы Гандзі».
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Дні Футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.20** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**01.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

3 новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ЮБІЛЕЙ

# СІМВАЛ НЯМЕЦКАЙ ТАЛЕРАНТНАСЦІ

Алег НОВІКАЎ

**2012 год абвешчаны ў Германіі годам караля Фрыдрыха Другога (Вялікага), вобраз якога за апошнія гады вельмі трансфармаваўся.**



Спадчына Старога Фрыца, (так называюць караля немцы) на першы погляд супярэчлівая. Перш за ўсё асцярожны падыход да Фрыдрыха Вялікага, які нарадзіўся 24 студзеня 1712 года, звязаны з месцам, якое ён займаў у афіцыйнай прапагандзе Трэцяга рэйху. У Трэцім рэйху нацыянал-сацыялістычная прапаганда ператварыла вобраз прускага караля ў адзін з сімвалаў «нямецкага адраджэння». Такое ўшанаванне нацыстамі было звязана з роляю караля Прусіі ў гісторыі нямецкай дзяржаўнасці. Фрыдрых Вялікі ўсяго за 20 гадоў ператварыў Прусію з аднаго са шматлікіх маленькіх нямецкіх фармаванняў у адну з самых моцных дзяржаў Еўропы. Пазней менавіта Прусія выступіла полюсам працэсу аб'яднання Германіі.

Біяграфія Фрыдрыха ў часы панавання Гітлера стала асновай для шматлікіх фільмаў, спектакляў. Адначасова публікаваліся навуковыя працы і літаратурна-мастацкія творы. Фрыдрыха часта малявалі на паштоўках і плакатах. Па колькасці выяваў Фрыдрых, на думку гісторыкаў, мог бы паспрачацца з Гітлерам. Выканаўца ролях Фрыдрыха Вялікага ў кіно акцёр Ота Гебюр быў нават пазбаўлены права гуляць якія-небудзь іншыя ролі, паколькі гэта, на думку Гебельса, магло «дыскрэдытаваць» ужо створаны ім на экране вобраз «Вялікага Караля».

У той час лічылася, што гітлераўская канцэпцыя вайсковай стратэгіі шмат у чым пазычана ў Фрыдрыха. Як вядома, Фрыдрых праславіўся сваім авантурызмам. Ён кідаў выклікі самым вялікім сталіцам кантыненту і, на дзіва, вельмі часта аказваўся пераможцам. Так здарылася, напрыклад, у фінале Сямігадовай вайны, якую, здавалася, Прусія дакладна прайграе. Рускі корпус нават увайшоў у Берлін. І тут нечакана памерла Елізавета, а рускім імператарам стаў яе сын Пётр — фанат Фрыдрыха. Пётр спыніў ваенныя дзеянні, склаў мірны трактат з Прусіяй, вярнуў адваяваныя правінцы і гарады, а таксама загадаў сваім войскам перайсці на бок былога суперніка. Гэта не кажучы пра тое, што Фрыдрых на полі бою літаральна лез у пекла.

Магчыма, у 1945 годзе Гітлер таксама разлічваў на нешта падобнае. У любым выпадку, падчас Другой сусветнай вайны было папулярна параўноўваць кампаніі Фрыдрыха з гітлераўскім бліцкрыгам. Варта таксама згадаць, што пачаткам устанаўлення нацысцкай дыктатуры лічыцца сумесная сустрэча прэм'ера Гітлера і прэзідэнта Гіндэнбурга 5 сакавіка 1933 года ў патсдамскай гарнізоннай царкве, дзе быў пахаваны Фрыдрых Вялікі. Менавіта пасля гэтай сустрэчы стары кансерватар Гіндэнбург даў нацыстам карт-бланш на расправу з левай і ліберальнай апазіцыяй і на антыяўрэйскае заканадаўства.

Варта таксама ўзгадаць удзел Фрыдрыха ў падзелах Рэчы Паспалітай. 70 працэнтаў Прусіі знаходзілася ў свой час на этнічнай тэрыторыі палякаў. Нарэшце, мадэль створанай Фрыдрыхам арміі стала сінонімам бязлітаснай муштры, якая, у сваю чаргу, выклікае асацыяцыі з салдафонскімі аўтарытарнымі рэжымамі.

Адным словам, малюецца дастаткова адмоўны вобраз, які абсалютна супярэчыць іншым учынкам Фрыдрыха Вялікага.

Кантрыбуцыі з захопленых Фрыдрыхам земляў, нарабаваныя сродкі ішлі на стварэнне фундаменту нямецкай нацыянальнай навукі і культуры. Пад патранатам караля ў Берліне адкрылася першае пасля працяглага перапынку пасяджэнне Акадэміі навук. Таксама ў Берліне быў пабудаваны новы оперны тэатр, тады адзін з самых прыгожых у Еўропе. На яго падмостках выступалі ў той час лепшыя артысты свету. Фрыдрыха часта называлі першым у гісторыі філосафам на троне.

За адзінаццаць гадоў Фрыдрых паспеў рэфармаваць прускую юрыдычную сістэму. Да відавочных дасягненняў яго рэжыму можна аднесці ўстанаўленне роўнасці перад законам прадстаўнікоў усіх саслоўяў і нацый, стварэнне незалежнага ад адміністрацыі суда. Фрыдрых быў, магчыма, першым з манархаў, хто адмовіўся ад кантролю над прэсай. Цэзура СМІ абмяжоўвалася трыма забаронамі: нельга было пісаць супраць Бога, супраць таемстваў хрысціянскай царквы і супраць гонару народа.

Такая супярэчнасць асобы Фрыдрыха, на думку псіхолагаў, звязаная з псіхічнай траўмай, якую ён перажыў у юнацтве. Стаміўшыся ад бясконцых здзекаванняў і насмешак з боку бацькі, у 18 гадоў малады Фрыдрых зрабіў няўдалую спробу збегчы з бацькаўскага дому ў Англію. Наступствы былі самымі суровымі: Фрыдрых быў адпраўлены ў крэпасць, полк прынца быў распушчаны, экіпажы адабраныя, любімыя кнігі спаленыя, а найбліжэйшы сябар адпраўлены на смерць. Прычым прысуд павінен быў быць прыведзены ў выкананне на вачах у прынца, які не вытрымаў сцэны і страціў прытомнасць. Гэта стала своеасаблівым рубіконам у жыцці нашчадка. Пасля ён падпарадкаваўся аўтарытэту бацькі, каналізуючы агрэсію ў вайсковую справу.

Адсюль, як лічыцца, і бярэ свой пачатак амбівалентнасць асобы караля. З аднаго боку, ён выступае за ідэі свабоды і роўнасці, захапляецца паэзіяй, грае на флейце, піша санеты і арыі. І адначасова дэманструе сябе заўзятым салдафонам — да смерці збівае рэкрутаў і вядзе часам бессэнсоўныя войны, якія ў выніку знеслі больш за мільён чалавечых жыццяў. Нядзіўна, што смерць караля выклікала ціхую радасць сярод немцаў. Ім надакучыла ваяваць.

У 1806 годзе Прусію акупаваў Напалеон, і вакол фігуры Фрыдрыха ў народзе нараджаецца сапраўдны міф. Складаюцца шматлікія анекдоты, выдаюцца аповесці пра подзвігі Старога Фрыца і г.д. Кульмінацыя культу прыходзіцца на час войнаў за аб'яднанне Германіі. Адначасова яго імя ўсё ахвотней пачынае выкарыстоўваць дзяржава — спачатку кайзераўская Германія, пасля Веймарская рэспубліка і нарэшце Гітлер. Гэтая лінія прыпынілася толькі пасля вайны. Улады як ФРГ, так і ГДР бачылі ў гэтым крыніцу рэваншызму.

Цяпер інтарэс да Фрыдрыха II вяртаецца, прычым у самым незвычайным ракурсе. Фігура Фрыдрыха стала папулярнай сёння сярод прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў. Яны на поўным сур'ёзе сцвярджаюць, што манарх быў гомасэксуалістам. Канкрэтнай інфармацыі ў архівах на гэты конт няма. Адзінае, што вядома, тое, што кароль і яго жонка сапраўды жылі паасобку, яны ледзь пераносілі адзін аднаго. Часам кароль прасіў у каралевы дазволу павячэраць разам з ёю. Яны сыходзіліся моўчкі, паважна раскланьваліся адзін з адным, садзіліся за стол і з такой жа цырымоніяй пасля абеду разыходзіліся...

Нечаканыя кампліменты на адрас Фрыдрыха II пачалі адпускаць палякі. Прызнаецца, што падзел Рэчы Паспалітай быў знешнепалітычным агрэсіўным актам. Аднак у перспектыве, як кажа ў інтэрв'ю «Tageszeitung» польскі гісторык Гжэгаш Падручны (Grzegorz Podruczny), інкарпарацыя палякаў у нямецкае грамадства мела плён. У Польшчы хутчэй развіваўся капіталізм і, адпаведна, грамадзянскае сумленне.

Калі сёння паглядзець на электаральную карту польскіх выбараў, можна лёгка заўважыць — цытадэль лібералаў з партыі «Грамадзянская платформа» знаходзіцца менавіта на землях, якія ў свой час увайшлі ў склад Прусіі. У гэтым плане не дзіўна, што адным з цэнтраў ушанавання юбілею Фрыдрыха Вялікага з'яўляецца нямецка-польскі універсітэт у Франкфурце-на-Одэры.

У гэтым плане цікавай з'яўляецца нататка ў правым нямецкім выданні «Junge Freiheit». Аўтар лічыць, што цяперашні юбілей і шуміха вакол Фрыдрыха Вялікага — каварная змова левых інтэлектуалаў. Так здарылася, што галоўныя ролі ў гісторыі немцаў гулялі правыя палітыкі — Бісмарк і Адэнаўэр. Канкураваць з імі здольны выключна Стары Фрыц. Такім фантастычным чынам улюбёнец Гітлера стаў сімвалам нямецкай нацыянальнай і нават сэксуальнай талерантнасці.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У апошні час у Беларусі і ў зацікаўленых краінах шмат кажуць пра хуткую прыватызацыю дзяржаўных актываў рэспублікі. Маўляў, надышлі цяжкія часы, і А. Лукашэнка нават супраць сваёй волі пойдзе на продаж дзяржмаёмасці па даступных коштах. Мяркуючы па тым, што адбываецца, не пойдзе. Нядаўна прэзідэнт даручыў ураду прытрымаць продаж буйных прадпрыемстваў «да лепшых часоў», гэта значыць да таго моманту, як кошт гэтых актываў вырасце. Надзеі ж на гэта знікаюць на вачах, бо практычна ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы не маюць магчымасці абнаўляць вытворчыя магутнасці і, як следства, з часам павінны толькі таннець.

**РБК (Расія)**

Беларускае тэлебачанне пачало паказ новай гучнай прэм'еры — серыяла «Талаш», знятага па матывах аповесці «Дрыгва» класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. Колас напісаў сваю аповесць у 1932–1933 гадах, падчас канфрантацыі бальшавіцкай Расіі і незалежнай Польшчы. У ідэалагізаваную літаратуру тых гадоў аповесць Коласа ўпісвалася ідэальна. Але калі яе ўвасобілі на Беларускім тэлебачанні, старая песня прыняла зусім новы выгляд — апісанне партызанскай вайны беларусаў з акупантамі-палякамі. Гэта можа сведчыць пра змены ў афіцыйнай ідэалогіі краіны. Яшчэ Аляксандр Лукашэнка пасля продажу рэшты газатранспартнай сістэмы вяртаецца да ідэі крэпасці, абложанай з Захаду. А абаронцамі гэтай крэпасці робіцца як самі простыя беларусы, так і пераможная Чырвоная Армія, якая прыходзіць ім на выручку з Расіі. І не бяда, што шматлікія расіяне не вельмі імкнуцца сёння атаясамліваць сваю краіну з бальшавікамі — галоўнае, каб дзед Талаш біў ненавісных палякаў на тэлевізійным экране.

**«Политком» (Украіна)**

З аднаго боку, з большай верагоднасцю мы ў выніку ўсё ж убачым Саннікава на волі. Эканамічнае і палітычнае становішча ў Лукашэнкі сёння горш няма куды, без дапамогі Захаду не абысціся — значыць, давядзецца выконваць іх палітычныя патрабаванні і выпускаць так званых палітвязняў. Але ў той жа час нельга выключаць і варыянту, што Саннікаву прыйдзецца адседзець адведзеныя яму 5 гадоў. Рызыка страціць кантроль над сітуацыяй у выпадку вызвалення ўсіх палітычных апанентаў усё адно вялікая. З іншага боку, вялікая і рызыка праспаць новы рост пратэстных дэмакратычных настрояў, якія гэтым разам могуць аб'яднаць у сваіх шэрагах не толькі нацыяналістаў, «свядомых» і «пятую калону».

**«Грани» (Расія)**

Еўразійскі саюз не можа быць трывалым, калі ў яго цягнуць сілай, выкручваючы рукі. Як прыклад можна ўспомніць нядаўнія падзеі ў адносінах паміж Масквой і Мінскам вакол беларускай газавай трубы, «малочную вайну» і самае сапраўднае інфармацыйнае ганенне Лукашэнкі ў расійскіх СМІ.

**«Финансы» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. ЮБІЛЕЙ ЗАКОНУ ПРА ЗАБАРОНУ НА ПРАФЕСІІ

Немцы ўзгадваюць 40-ю гадавіну закону пра забарону на прафесіі. Закон быў прыняты 22 студзеня 1972 года на пасяджэнні рады міністраў ФРГ пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакрата Віллі Брандта. Міністры прынялі рашэнне забараніць асобам з радыкальнымі поглядамі займаць дзяржаўныя пасады. У выніку з дзяржаўных установ — галоўным чынам школ і ВНУ — было выкінута каля 11 тысяч чалавек. Паколькі яснай фармулёўкі, хто такія экстрэмісты, не было, пад каток рэпрэсій трапілі сябры зарэгістраваных левых арганізацый, галоўным чынам Кампартыі. Большасць з іх перажылі сапраўдную трагедыю, паколькі ўладкавацца на працу з воўчым білетам было вельмі цяжка. Даказваць сваю бяспечнасць для сістэмы даводзілася шляхам доўгіх судовых працэсаў. Цікава, што былыя сябры партыі нацыстаў амаль не былі рэпрэсаваныя. Толькі напрыканцы 1980-х урад прызнаў, што Закон аб забароне на прафесіі быў памылкай. Зараз любая дыскрымінацыя па ідэалагічных прыкметах у ФРГ забаронена, хаця левыя газеты пішуць, што ў Баварыі (самая кансерватыўная зямля) дасюль існуе негалосны закон не браць на працу камуністаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. 1937-Ы ГОД ВЯРТАЕЦЦА

У Казахстане вялікі хапун. Генпракуратура Казахстана кажа, што вызначыла арганізатараў снежаньскіх беспарадкаў у Жанаазене, калі як мінімум 16 чалавек загінулі і дзясяткі атрымалі раненні. Усе арганізатары арыштаваныя, ім прад'яўлены абвінавачванні. Гаворка ідзе не толькі пра непасрэдных удзельнікаў хваляванняў. Да адказнасці вырашылі прыцягнуць лідара апазіцыйнай партыі «Алга» Уладзіміра Казлова, іншых апанентаў прэзідэнта Назарбаева, а таксама галоўнага рэдактара апазіцыйнай газеты «Взгляд» Ігара Віняўскага. Доказы супраць іх вельмі «сур'ёзныя»: у рэдакцыі газеты следчыя знайшлі ўлёткі нібыта з заклікамі да нейкіх дзеянняў. На адным баку ўлёткі быў тэкст на арабскай мове, на другім — на рускай пра тое, як арганізаваць рэвалюцыі ў арабскіх краінах. Нягледзячы на камізм, сітуацыя сур'ёзная. Сайты апазіцыі сцвярджаюць, што зараз Казлова і іншых арыштаваных катуюць, каб яны падпісалі прызнанне аб супрацоўніцтве з замежнымі цэнтрамі эміграцыі, якія быццам і арганізавалі бунт у Жанаазене.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. РЫХТУЕЦЦА ДЭПАРТАЦЫЯ ЦІМАШЭНКА



Уплывовы ўкраінскі палітолаг Віктар Небажэнка сцвярджае, што ва ўрадавых колах нарадзіўся план, як вырашыць праблему Юліі Цімашэнка, якая сядзіць у турэмнай калоніі за карупцыю. Нягледзячы на тое, што Юлію ізалявалі, яна застаецца героем СМІ. У дадатак кепска ўплывае на адносіны Кіева з Захадам. Януковіч застаецца шукаць сцэнар, які дазволіць пазбавіцца ад лэдзі Ю без страты рэйтынга. Такі план, калі верыць Небажэнку, складзены. Галоўную ролю ў ім будзе гуляць Аляксандр Цімашэнка — муж Юліі, які не так даўно атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі. Улады быццам бы збіраюцца пад соўсам аб'яднання сям'і дэпартаваць Цімашэнка за мяжу. Адначасова Януковіч пазбавіць Цімашэнка ўкраінскага грамадзянства. Вось такі сцэнар, тэрміны рэалізацыі якога Небажэнка пакуль не ведае. Застаецца дадаць, што практыка дэпартацыі палітычных апанентаў з нагоды аб'яднання сямей існавала ў часы барацьбы савецкіх уладаў з дысідэнтамі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. ВЕНСКІ БАЛЬ — ТАНЦЫ ФАШЫСТАЎ

Аўстрыйская секцыя Арганізацыі ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (UNESCO) выкрасліла венскі бал са спісу значных культурных падзей. Такое рашэнне было прынята па просьбе праваабарончай арганізацыі SOS Mitmensch і нобелеўскага лаўрэата Эльфрыды Елінэк. Сваё патрабаванне яны матывавалі тым, што на балі выконваюцца выключна традыцыйныя нямецкія мелодыі, што супярэчыць культурнаму вобразу Вены, дзе жывуць прадстаўнікі шматлікіх нацый. Гэта, у сваю чаргу, быццам стварае Вене імідж фашысцкага горада. Кіраўніцтва Unesco падтрымала ініцыятыву пісьменніцы і праваабаронцаў. Між тым, знайшліся ў бала і абароны. Цяперашні фармат бала падтрымала правая Аўстрыйская партыя Свабоды (FPÖ). Дэпутаты ад FPÖ называюць крок UNESCO недэмакратычным.

**Паводле нямецкай прэсы**

ГЕАПАЛІТЫКА

# ШТАТ НА МЕСЯЦЫ

*Алег НОВІКАЎ*

**Заклік Ньюта Гінгрыча — прэтэндэнта на пасаду кандыдата ў прэзідэнты ад Рэспубліканскай партыі ЗША — стварыць на Месяцы 51-ы штат ЗША выклікаў палітычную буру.**




Справа не ў тым, што заснаванне амерыканскай калоніі на Месяцы ва ўмовах цяперашняй крызісу выглядае ў лепшым выпадку фантастыкай, а ў горшым — занадта дарагой авантурай. У гісторыі хапала і дасюль хапае іншых краін і рэгіёнаў, якія жадаюць атрымаць статус 51-га амерыканскага штата. Спіс кандыдатаў дастаткова вялікі: Пуэрта-Рыка, федэральная акруга Калумбія і г.д. І відавочна, ідэя прыняць у склад федэрацыі спачатку Месяц, а пасля фігурантаў згаданага спісу не выклікае ў апошніх вялікага захаплення.

Хто толькі ні марыў пра тое, каб стаць суб'ектам ЗША. Галоўная прычына ў тым, што прынцып амерыканскага грамадзянства не заснаваны на тэорыі этнічнага або расавага паходжання. Тэарэтычна, любы ўрад, які прызнае ўніверсальныя правы чалавека, што ляжаць у аснове амерыканскай канстытуцыі, можа паспрабаваць падаць заяву на ўступленне ў федэрацыю.

Іншая справа, ці прымуць такую заяву. Напрыклад, статус 51-га штата вельмі хацела атрымаць пасля вайны Сіцылія. Паколькі мясцовая мафія ў 1930-я гады мела вялікія праблемы з фашыстамі, яна ахвотна дапамагала войскам антыгітлераўскай кааліцыі. Сімпатыі тубыльцаў да войскаў Дзядзі Сэма хутка перараслі ў ідэю фікс стаць амерыканцамі. Тым больш, праджэкт падтрымлівала сіцылійская дыяспара ў Амерыцы. Рух за выхад Сіцыліі з Італіі і далучэнне да Злучаных Штатаў быў настолькі папулярны, што нават быў прадстаўлены ў італьянскім парламенце, хаця да канкрэтыкі справа не дайшла.

Не пашанцавала і філіпінцам. Тут пасля прыходу амерыканцаў у 1907 годзе ўзнікла партыя федэралістаў, якая выступала за ўваходжанне краіны ў склад ЗША. Канчаткова федэралісты адмовіліся ад гэтага лозунга толькі ў 2004 годзе. Такая магчымасць разглядалася, дарэчы, таксама як сродак вырашэння рэлігійнай раскола паміж паўночнай хрысціянскай часткай архіпелагу і паўднёвай, дзе дамінуюць мусульмане. Апошнія таксама былі не супраць уступлення Поўначы ў склад ЗША, маючы намер прыяднацца да мусульманскай Інданезіі.

Амерыканскія сентыменты былі і застаюцца распаўсюджаныя на поўдзень ад Рыа-Грандэ. Падчас шматлікіх грамадзянскіх войнаў на поўначы Мексікі ўзнікалі самаагалошаныя рэспублікі, якія прасіліся ў склад ЗША. Падобная гісторыя мела месца ў Нікарагуа, якую ў 1855 годзе захапіў амерыканскі авантурыст Вільям Валкер. Ён прасіўся ў склад рабаўладальніцкай Канфедэрацыі.

У розныя часы з'яўляліся планы далучэння да ЗША Коста-Рыкі, Гандураса, Сальвадора, Панамы, Зоны Панамскага каналу і г.д. Пасля землятрусу ў Гаіці ў 2010 годзе ўплывовы «Time Magazine» пісаў, што лепшай формай дапамогі няшчасным гаіцянам можа быць наданне гэтай дзяржаве статусу 51-га штату ЗША.

Былі выпадкі, калі ЗША самі хацелі кагосьці далучыць. Гаворка пра Канаду, вызваленне якой ад Брытанскай Кароны ў Вашынгтоне пасля вайны за незалежнасць разглядалі як святы абавязак. Некалькі разоў янкі спрабавалі гвалтоўна «вызваліць» канадцаў і аб'яднаць з ЗША, аднак станоўчых вынікаў такія спробы не мелі. Пасля падпісання ў 1988 годзе паміж Канадай і ЗША дамовы пра зону вольнага гандлю прыхільнікі амерыканска-канадскай інтэграцыі зноў ажывіліся.

Хапае жадаючых стварыць новыя штаты і на тэрыторыі ЗША шляхам перагляду ўжо існуючых адміністратыўных межаў. Так, на поўначы Каліфорніі некаторыя мараць аднавіць так званую Рэспубліку Пацыфік, якая існавала тут напачатку XIX стагоддзя. Хацелі б стварыць асобныя штаты такія мегаполісы, як Нью-Ёрк і Чыкага.

Самы салідны «ўнутраны» кандыдат на статус 51-га штата — Федэральная акруга Калумбія (Washington, D.C), на тэрыторыі якой знаходзіцца сталіца Вашынгтон. Федэральная акруга Washington, D.C. не мае прадстаўніцтва ў кангрэсе, хаця яе жыхары плацяць падаткі ў федэральны бюджэт. Пачынаючы з 1978 года гэта тэма ўсіх выбарчых дэбатаў. Цікава, што штат Вірджынія ў выпадку надання Вашынгтону статусу штату гатовы выставіць да яго тэрытарыяльныя прэтэнзіі. У гэтым плане ёсць фантастычны праект — проста падзяліць Вашынгтон паміж Вірджыніяй і Мэрылэндам і забяспечыць вашынгтонцаў грамадзянскімі правамі, за якія яны выступаюць. У такім выпадку Федэральная круга будзе абмежаваная Нацыянальнай Галерэяй — комплексам помнікаў і музеяў у цэнтры гораду, куды ўваходзіць Белы Дом, Капітолій і г.д.

Аднак самыя высокія шанцы стаць 51-м штатам у Пуэрта-Рыка, які афіцыйна называецца Unincorporated organized territory, што азначае — на гэтай тэрыторыі Канстытуцыі ЗША абмежавана; вярхоўная ўлада належыць Кангрэсу ЗША, але тэрыторыя мае ўласную сістэму самакіравання. Жыхары Пуэрта-Рыка маюць амерыканскія пашпарты, аднак іх правы абмежаваныя. Палітычны статус востраву па-ранейшаму да канца не вызначаны, хаця прыхільнікі ўваходжання тэрыторыі ў склад ЗША некалькі разоў праводзілі рэферэндумы након змены статусу. І заўсёды ім не хапала зусім трошкі. Чарговая спроба прызначаная на лістапад гэтага года.

Наступныя пасля Пуэрта-Рыка кандыдаты на атрыманне праў штату — амерыканскія выспы Самоа, Палау, якія знаходзяцца ў Ціхім акіяне. Віргінскія астравы, што на Карыбах.

Калі гаворка ідзе пра 51-ы штат, варта згадаць, што часам гэты тэрмін мае сатырычны падтэкст. 51-м штатам называюць самых заўзятых саюзнікаў Вашынгтону. Такі тытул у свой час атрымлівалі Польшча за падтрымку ЗША ў іракскай вайне, Албанія, якая была на баку ЗША ў косаўскім канфлікце. Забаўна, што ў Польшчы і Албаніі мянушка «51-ы штат» успрымалася мясцовым палітыкумам хутчэй з негатыўным падтэкстам.

Таксама 51-м штатам называюць залежныя ад Вашынгтону дзяржавы. Напрыклад, часта так называюць Тайвань. Дарэчы, у 2003 годзе ў рамках сацыялагічнага даследавання 55 працэнтаў тайванцаў выказаліся за ўваходжанне вострава ў склад ЗША. І толькі 33 працэнтаў жыхароў востраву жадаюць вяртання ў лона Кітаю.

**Рух за выхад Сіцыліі з Італіі і далучэнне да Злучаных Штатаў быў настолькі папулярны, што нават быў прадстаўлены ў італьянскім парламенце**

А ўвогуле, рэалізацыі экспансіяністкай канцэпцыі наконт таго, што ЗША абавязаны пашыраць і ўключаць новыя штаты, можа мець вельмі незвычайны фінал. Не выключаюць, што з-за буйнага росту колькасці ў Штатах іспанамоўных амерыканцаў у перспектыве мы станем сведкамі аб'яднання ЗША і Мексікі. У выніку на глобусе з'явіцца дзяржава, якая будзе ўключаць цэлых 82 штата (Мексіка таксама федэрацыя). Праўда, не зразумела — гэта будуць Злучаныя Штаты Амерыкі або Злучаныя Штаты Мексікі...

ВЫБАРЫ

# ПУЦІН ЦІ ЗЮГАНАЎ, ІНШАГА НЕ ДАДЗЕНА?

Алег НОВІКАЎ

**За месяц да выбараў прэзідэнта расійская прагрэсіўная супольнасць сутыкнулася з дылемай: або працяг рэжыму Пуціна, або камуніст Зюганаў. Прапануем агляд рунэта.**

Расія, калі меркаваць па каментарах на блогах, сапраўды цяжарная вялікімі пераменамі. Нават на далёкіх ад палітыкі жаночых, спартовых, школьных форумах хапае палітычных рэмарак і спрэчак на глабальныя палітычныя тэмы. Паколькі рунэт традыцыйна — гняздо ўмеранай ліберальнай апазіцыі, то настрої, зразумела, апазіцыйныя. Большасць тут будзе галасаваць супраць Пуціна, якому, па апытаннях, сімпатызуюць толькі 14 працэнтаў карыстальнікаў сеціва. А вось за каго галасаваць і за што — пытанне…

Калі адсунуць у бок сцэнар Майдану, адзіны шанец на кардынальныя змены звязаны з імем Генадзя Зюганава. Усе астатнія кандыдаты — Міронаў, Прохараў і іншыя — лічацца ў грамадстве тэхнічнымі кандыдатамі Крамля.

Аднак галасаваць за Зюганава для шараговага расійскага лібэрала не вельмі этычна. Не будзем ужо казаць пра тое, што ГАЗ (Генадзь Андрэевіч Зюганаў) любіць пагуляць у сталінізм і рускі шавінізм.



Па-першае, сам Генадзь Зюганаў не пасуе каштоўнасцям і стылю гарадскога сярэдняга класу, які складае авангард пратэстаў. Па-другое, Зюганаў даўно зарэкамендаваў сябе як апартуніст (існуюць версіі, што ён негалосны агент Пуціна). Усе памятаюць выбары 1996-га, калі Зюганаў пабаяўся аспрэчваць вынікі вельмі супярэчлівых выбараў. Дзейнасць КПРФ у Думе і органах улады цалкам адпавядае навязанай Пуціным мадэлі кіруемай дэмакратыі. Такая дэмакратыя адрозніваецца ад рэальнай у першую чаргу тым, што ў ёй існуе плюралізм, але няма палітычнага жыцця як супрацьстаяння самастойных антаганістычных арганізаваных сіл, якія выказваюць групавыя інтарэсы. Больш таго, папулярны тэзіс пра тое, што партыя ўлады баіцца крызісу КПРФ, паколькі гэта справакуе з'яўленне новых левых, якіх цяжка кантраляваць.

Адзін з блогераў з гэтай нагоды нагадвае палітычным неафітам, хто такі дзядзя Зю: «А вось і Зюганаў, вось наш улюбёны… Рускаму кажуць: КПРФ ужо была ва ўладзе. У 1995-м КПРФ мела 139 месцаў у Дзярждуме. КПРФ пакінула далёка ззаду партыю ўлады («Наша дом — Расія» Чарнамырдзіна) з 65 месцамі. Старшынёй Дзярждумы прызначылі Селязнёва ад КПРФ. І што, з'елі? Аказваецца, колькі ні кажы — усё вылятае ў рускага з галавы, ні халеры ён не памятае, ён зноў хоча галасаваць за Зюганава!»

Шмат хто згадвае вопыт «чырвоных губернатараў». Да апошняй палітычнай рэформы, калі кіраўнікі абласных выканкамаў абіраліся прамым галасаваннем, камуністы кантралявалі цэлыя рэгіёны. Аднак калі ўзгадваць вопыт, то на памяць прыходзяць хутчэй ксенафобскія эксцэсы. Так, кубанскі губернатар Мікола Кандрацэнка ішоў на выбары з абяцаннем правесці «прадразвёрстку» для пасрэдніцкіх фірм і абуздаць каўказцаў.

Аднак нешта рабіць трэба. І тут пачынаецца самае смешнае. Расійскі сярэдні клас аказваецца перад фатальным выбарам: а) прыдумаць сабе нейкае абгрунтаванне, каб не галасаваць за Зюганава, аднак пры гэтым паказаць фігу Пуціну; б) зламаць унутраныя забабоны і знайсці аргументы для таго, каб аддаць голас за Зюганава і захаваць пры гэтым рэнаме чалавека, які мысліць адэкватна.

Напрыклад, прыдумалі наступнае: «Калі ў вас няма сіл галасаваць за Зюганава, не прыходзіце на другі тур. Першы ігнараваць нельга. Жулікі папросту мараць, каб у першым туры была нізкая яўка, і яны задушаць нас адміністрацыйным рэсурсам. У гэтым выпадку высунуты «Адзінай Расіяй» (і які засароміўся гэтага факту) кандыдат Пуцін пройдзе без другога тура. Тады будзе другі тур, на якім можна прагаласаваць нагамі. Але ў другім туры зусім іншая сітуацыя. Можа, нізкая яўка ў другім туры якраз будзе на руку ўжо нам. Таму што тады Пуцін не асмеліцца сказаць, што ён абапіраецца на большасць. У нас у руках будзе лічба, якую мы будзем пісаць на ўсіх плакатах і будзем тыкаць яму ў нос увесь той час, што ён будзе чапляцца за ўладу».

Тыя, хто ўсё ж вырашыў галасаваць за Зюганава, галоўным чынам тлумачаць гэта тактычнымі задачамі. На іх думку, трэба працягваць рэвалюцыйны працэс, нават коштам кааліцый з КПРФ. «У любым выпадку, трэба галасаваць за Зюганава, а потым паглядзім на яго дзеянні і рэакцыю», — піша адзін з блогераў.

Некаторыя, з лупай прачытаўшы выбарчую праграму КПРФ, знайшлі ў ёй зерне ісціны. Вось іх думка: «Так, камуністы цёпла ставяцца да савецкай спадчыны і ставяць за мэту мірнае адраджэнне на адной шостай частцы сушы адзінай, магутнай сацыялістычнай дзяржавы, заснаванай на прынцыпах сацыяльнай справядлівасці. Але гэта не вяртанне ў мінулае. Тая эпоха сышла, але ідэалы вольнай працы, узаемадапамогі і братэрства не маюць часавых каардынат. Яны або ёсць, або іх няма. І эканоміка служыць кішэням купкі алігархічных паразітаў ці працуе на ўсё грамадства, на ўсіх людзей. Меркаванне камуністаў — паразіты павінны быць адхіленыя ад кармушкі, а эканоміка павінна быць пастаўлена на службу ўсяму грамадству. Магчымасць зрабіць гэта мірна яшчэ ёсць. Што вы аберацe 2 сакавіка, тое і будзе. І вельмі хутка, нягледзячы ні на якія магчымыя фальсіфікацыі. Калі вы за «вечнае цяпер», галасуйце за пераемніка ці за яго «дублёра». Жадаеце росту і развіцця, зменаў і свежага паветра, галасуйце за камуніста Генадзя Андрэевіча Зюганава».

Складаецца ўражанне, нібы паступова большасць пагаджаецца з тым, што Зюганаў меншае зло, чым Пуцін. Каб не было паўтарэння пуцінскай эры, яны гатовыя прадаць душу абы-каму. Нават Зюганаву.

«У сакавіку галасаваць трэба за Зюганава, як бы каму б тое не было як нож у сэрца! Бо толькі гэты фраер, пад пільным кантролем максімальна магчымага ліку назіральнікаў і з улікам страшнай барацьбы з фальсіфікацыямі, мае шанец абысці Пуціна (а гэта галоўная задача на сёння!). Сам ЗЮ — пасля магчымай перамогі — будзе шаўковы і рахмана-кіраваны, таму што ён сваё месца выдатна ведае і шанцы свае ўжо таксама даўно пралічыў. І ён не стане чырвоныя сцягі развешваць», — піша тыповы адэпт канцэпцыі меншага зла.

Дылема — галасаваць або не за Зюганава — дала шмат каму падставу разумець, што лібералы ў Расіі — меншасць. Нават калі б у спісе кандыдатаў быў Навальны або Яўлінскі, шансаў супрацьстаяць Зюганаву і Пуціну ў іх не было б. Адсюль катэгарычныя антыэгалітарныя настроі: «Зайшла ў прадуктовую краму, а там — ахоўнік, хлопец гадоў 30. Паглядзела я на яго тупы твар, і падумалася: вось гэта падла валодае выбарчым правам, як і я. Таму што, калі ты ахоўнік, то далей дэградаваць ужо няма куды. Гэта тая самая кропка незвароту. У краме цэрліся бабкі з тварамі, упэўнена кранутымі старэчым маразмам. Бабкі казалі: «Трэба галасаваць за Зюганава. Ён мужык добры». І ў іх таксама ёсць права голасу, падумала я. І так сумна мне штосьці стала... Я лічу, выбарчым правам трэба надзяляць тых, хто: а) пару год адпрацаваў на дзяржаву, б) здаў іспыт па гісторыі Расіі і яе дзяржаўным вопыце. Нескладаны такі іспыт, з самымі элементарнымі пытаннямі. Нельга, ну нельга ж падпускаць да выбарчых скрыняў ідыётаў».

Як кажуць, без каментараў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### УЛАДЗІМІР ПУЦІН



Апошнія паводзіны расійскага прэм'ера выклікалі ў прэсе хвалю чутак пра тое, што ён мае намер паставіць крыж на сваім праекце — партыі «Адзіная Расія» (ЕР). Усе адзначаюць, што Пуцін вядзе перадвыбарчую кампанію ад уласнага імя, а калі каго і ўзгадвае ў якасці электаральнай базы, то створаны пад выбары Агульнарасійскі народны фронт. Па меркаванні шэрагу аналітыкаў, пасля вынікаў парламенцкіх выбараў "Адзіная Расія" страціла давер, і яе ўжо можна назваць былой партыяй улады. Адно не зразумела, як ЕР будзе сыходзіць з палітычнай сцэны. Большасць экспертаў згодныя з тым, што драматычны лёс КПСС «Адзіная Расія» не паўторыць. Хутчэй за ўсё, гэты кангламерат папросту развaліцца на некалькі праектаў — эканамічных лібералаў, кансерватараў-традыцыяналістаў і левых папулістаў. Ёсць думка, што ліберальнае крыло ЕР можа ўзначаліць Мядзведзеў. А якую нішу зойме Пуцін, які абвяшчае сябе надпартыйным лідарам, загадка.

### МАРЫНА ВАЙСБАНД



Адзін з лідараў нямецкай Партыі піратаў, партыйны скарбнік, 24-гадовая Марына, якая, дарэчы, нарадзілася ў Кіеве і пераехала ў Германію з бацькамі-яўрэямі, апошнім часам была ворагам нумар адзін для ўсіх неанацыстаў. Яе выяву можна было пабачыць на шматлікіх сайтах правых радыкалаў. Яе паштовую скрынку атакуюць лістамі з пагрозамі або проста спамам. Прычына? Усё таму, што Марына з'яўляецца прыхільніцай іудзейскай веры. На думку правых экстрэмістаў, гэта сімптом таго, што «іудзеі намагаюцца захапіць нямецкі партыйны ландшафт». Цяжка сказаць, ці мела антысеміцкая істэрыка ўплыў на пірацку, аднак 25 студзеня яна адмовілася ад удзелу ў парламенцкіх выбарах 2013 года. Па словах палітыка, для яе больш важна зараз напісаць дыплом (Вайсбанд вучыцца на псіхолага). Акрамя таго, яна спасылаецца на праблемы са здароўем. Палітолагі лічаць такі крок лагічным. Нядаўна стала вядома пра існаванне ў ФРГ цэлай сеткі ўзброеных правых тэрарыстаў. Хаця сама Вайсбанд абяцае вярнуцца ў палітыку роўна праз год, адразу пасля заканчэння ўніверсітэту.

### ЖАН ПІНГ



Габонскі дыпламат, старшыня Камісіі Афрыканскага саюза спрабуе выратаваць галоўную афрыканскую міжнародную арганізацыю Афрыканскі саюз, саміт якой адбыўся ў Адыжане. Гэта была гістарычная сустрэча, паколькі на ёй упершыню не было прадстаўніка Муамара Кадафі. Менавіта Кадафі ў сярэдзіне 1980-х гадоў быў ініцыятарам стварэння Афрыканскага саюзу. Трыпалі фактычна фінансаваў дзейнасць структуры, якая, як марыў Кадафі, змажа за 10–20 гадоў інтэграваць усе афрыканскія дзяржавы ў адзін праект кшталту ЕС. Пасля падзення яго рэжыму ўзнікла пытанне выжывання арганізацыі. Як паказвае пасяджэнне ў Адыжане, пагроза крызісу Афрыканскага саюзу цалкам рэальная. Назіраецца раскол паміж двума блокамі: былыя калоніі Францыі і Паўднёвая Афрыка, якая займае выразную антызаходнюю пазіцыю. У выніку пасяджэння паўднёвыя афрыканцы сарвалі пераабранне Жана Пінга на пасаду старшыні. Аднак кандыдат Прэторыі таксама не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Назіральнікі кажуць, што адсутнасць кіраўніка, кансенсусу па кандыдатуры якога папросту не назіраецца, можа замарозіць дзейнасць Афрыканскага саюза. Варта нагадаць, што Афрыканскі саюз — ужо трэцяя спроба аб'яднаць афрыканскія краіны ў адну рэгіянальную арганізацыю. Папярэднія праекты праваліліся з-за таго, што ўсе яны ў выніку ператваралася ў клуб дыктатараў.

▸ **ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ**

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

## (ГІСТОРЫКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ ЭСЭ)

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

◂ **Працяг. Пачатак у №№ 42–47, №1–4**

**Кажуць, калі Мазанік жыла на генеральскай дачы, жонкі генералаў, якія жылі побач, часта падсмейваліся і кпілі з яе: «Якая ты гераіня, ты проста прастытутка». Каб пакончыць з гэтымі кпінамі, Алена і яе сястра Валянціна аднойчы надзелі свае высокія дзяржаўныя ўзнагароды, выпілі для храбрасці і, узяўшы калы, пайшлі малаціць вокны генеральскіх дачаў.**



Алена Мазанік з лістом ад Аніты Кубэ

### Жыццё пад страхам

Вярнуцца ў Мінск, у Беларусь, пасля вызвалення рэспублікі Мазанік і яе сястру Валянціну прымусіў першы сакратар ЦК КП(б)Б Панамарэнка. «Гераіня свайго народа павінна жыць у сябе на радзіме», — казаў ён.

Вярнуўшыся з Масквы, Алена нейкі час жыла ў Новабеліцы, на Гомельшчыне (цяпер мікраёан Гомеля), потым пераехала ў Мінск, дзе непрацяглы час жыла ў бараку на вуліцы Лодачнай (гэта вуліца і цяпер знаходзіцца паміж вуліцай Чырвонаармейскай і ракою Свіслач паралельна вуліцы Ульянаўскай), потым пераехала жыць на вуліцу Энгельса. На працягу свайго жыцця Мазанік часта мяняла кватэры. Яна жыла яшчэ на Камуністычнай, 10, на Янкі Купалы (каля будынка Мінскага дзяржаўнага цырка), на Берасцянскай, на Чачэрына, 2. На Чачэрына яна і памерла на 83-м годзе жыцця.

Усё жыццё яна зачынялася на мноства замкоў. Каго ж баялася Герой Савецкага Саюза Алена Мазанік, жывучы ў Мінску? Спачатку — помсты. У Вільгельма Кубэ засталіся 4 сыны, і яны маглі адпомсціць за смерць бацькі. Калі ў Мінск пачалі прыходзіць з Германіі лісты ад Аніты Кубэ, Мазанік баялася браць іх у рукі, бо думала, што яны могуць быць з атрутай ці заражаны якой-небудзь пошаснай хваробай.

З цягам часу лісты Аніты Кубэ супакоілі яе, але потым Мазанік пачала баяцца помсты з боку жыхароў Мінска. Родзічаў расстраляных заложнікаў.

Потым яна баялася, што яе абрабуюць, бо пайшла па гораду Мінску такая чорная хваля — ветэранаў вайны і іх кватэры пачалі рабаваць.

Пазней, калі ўсе страхі адпалі, Мазанік баялася памерці ад гіпертанічнага крызу ў адзіноце. Таму ў яе доме амаль увесь час жылі домработніцы.

Першай домработніцай была Марыйка (Марыя Міхайлаўна Малькевіч). Яна жыла ў Мазанік у 1965–1976 гадах. Домработніцы былі зацікаўлены мець пастаянную прапіску, каб потым стаць на чаргу для атрымання ўласнага жылля ў Мінску. Мазанік згаджалася на прапіску домработніцы, не брала платы за жыллё і харчаванне, але і не плаціла за дапамогу ў вядзенні хатняй гаспадаркі. У 1976 годзе Марыйка выйшла замуж і пераехала жыць да мужа. Пра Алену Рыгораўну ў Марыйкі засталіся самыя светлыя і цудоўныя ўспаміны як пра добрага, душэўнага, сціплага чалавека.

У 1978–1992 гадах домработніцай у Мазанік працавала Галіна (аднавяскоўка Марыйкі). Яна закончыла прафтэхвучылішча будаўнікоў і працавала ў той час на Мінскім аўтамабільным заводзе. Галіна добра зарабляла на МАЗе і па дакументах Мазанік купіла дэфіцытную ў той час аўтамашыну «Жыгулі». Сваім фотаапаратам «Зенит» яна зрабіла для Мазанік шмат аматарскіх здымкаў з яе жыцця. Але праз нейкі час у Галіны памёр бацька, цяжка захварэла маці, і яна пакінула дом Мазанік. Новую домработніцу знайсці не ўдалося.

За два гады да смерці Мазанік пачала даглядаць яе пляменніца Лілія Пігулеўская (дачка Валянціны Шчуцкай ад першага шлюбу). Яна прыбрала да сваіх рук матчын Ордэн Леніна і цётчыну Зорку Героя Савецкага Саюза. Лілія Пігулеўская прадала іншыя дзяржаўныя ўзнагароды Алены Мазанік — Ордэн Леніна, іншыя ордэны і медалі.

Працуючы ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН БССР імя Якуба Коласа спачатку намеснікам дырэктара бібліятэкі (а потым займалася падпіскаю на перыядычныя выданні як паштовы работнік), Алена Рыгораўна сядзела за сталом на другім паверсе вялікага лесвічнага хола справа ля акна. Яна адчувала сябе ізгоем, была адзінокай, самотнай. Я яе там часта бачыў, праходзячы ў бібліятэку.

У апошнія гады Мазанік пакутавала ад вострых псіхічных захворванняў. Пасля вячэрняй прагулкі ў двары свайго дома, яна памерла ва ўласнай кватэры 7 красавіка 1996 года. Пахавана на Маскоўскіх могілках горада Мінска. Хавалі Алену Мазанік з усімі дзяржаўнымі ўшанаваннямі. У пахаванні ўдзельнічаў А.Р. Лукашэнка. І так распарадзіўся лёс: гаўляйтара Кубэ і Героя Савецкага Саюза Мазанік хавалі з аднаго будынка — Дома афіцэраў, толькі з розніцай у 53 гады.

Выдаткі на пахаванне і ўстаноўку помніка ўзяла на сябе дзяржава. Развітацца з Аленай Рыгораўнай прыйшло шмат народу. Многія плакалі. На магіле Мазанік заўсёды жывыя кветкі. Рашэннем Мінскага гарвыканкама на доме па вуліцы Чачэрына, 2, дзе жыла ў апошнія гады Алена Рыгораўна Мазанік, за кошт дзяржавы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У вёсцы Паддзягцярня, дзе яна нарадзілася, у яе гонар названа вуліца.

### Чацвёртая жанчына

Пры пэўным збегу абставінаў Сталін мог прадставіць да высокіх дзяржаўных узнагарод не трох жанчын, што ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы забойства Вільгельма Кубэ, а чатырох.

Аднойчы Вільгельму Кубэ спадабалася прыгожая ўрач-беларуска. Але потым яна знікла з яго поля зроку. Яму нічога не ўдалося даведацца пра яе, і ў канцы чэрвеня 1942 года спецыяльна была склікана «медыцынская канферэнцыя», на якой выступіў Кубэ. На гэтай канферэнцыі прысутнічала і прыгажуня-ўрач 1-й бальніцы (на вул. Ленінскай).

Яе сфатаграфавалі. Фатаграфія была перададзена з даручэннем зрабіць так, каб прыгажуня апынулася ў доме Кубэ ці ў якасці «пакаёўкі» яго жонкі Аніты, ці ў якасці эканомкі.

Прыгажуня напачатку ледзьве не пакончыла жыццё самагубствам, але потым передумала і дала згоду быць у асабняку Кубэ ў якасці прыбіральшчыцы. Гэта была Тацццяна Нікіцічна Каліта.

Яна трымала сябе на новым месцы «службы» незалежна і з пачуццём уласнай годнасці. Вільгельм і Аніта празвалі яе «бальшавічкай» і ў маі 1943 года выставілі за вароты асабняка. Таццяна не раз выказвалася, што яна ўрач і ёй трэба лячыць людзей у лагеры ваеннапалонных, а не купаць генеральскіх сабак. Інфармацыя пра гэтыя размовы даходзіла да Кубэ. Спачатку яе хацелі адправіць у Германію на прымусовыя работы. Але фраў Аніта настаяла на тым, каб проста выгнаць «строптивую прислугу» з асабняка і ніякіх карных мер супраць яе не распачынаць.

Каб ведала Аніта, што менавіта Каліта звязала падпольшчыцу Траян з Мазанік...

Самалёт СІ–47 да апошняй хвіліны чакаў на аэрадроме пад Бягомлем партызанскага ўрача Таццяну Каліту. А ў гэты час Т.Н. Каліта з правадніком Архіпам (мянушка партызана Івана) Прытчыным дабіраліся на гэты аэрадром і... спазніліся. Калі яны дасягнулі аэрадрома, самалёт ужо перасякаў лінію фронту. Экіпаж самалёта СІ–47 не мог чакаць бясконца, і камандзір выруліў на старт. На яго борце былі А.Р. Мазанік, М.Б. Осіпава, Н.В. Траян, камандзір спецатрада «Феликс» І.Ф. Залатар, В.Р. Шчуцкая і яе дзеці.

Яшчэ невядома, як бы склаўся яе далейшы лёс, калі б яна патрапіла ў Маскву разам з Мазанік, Осіпавай і Траян.

Пасля вайны Таццяна Каліта вярнулася ў медыцынскі інстытут і працягвала навуковую дзейнасць. Але ў сваёй біяграфіі яна напісала, што «работала уборщицей у Кубэ». А гарадскія ўлады Мінска, толкам не разабраўшыся, нават спрабавалі выселіць сям'ю Каліты з Мінску.

Яе ўпарта «забывалі» запрашаць на ўрачыстыя сходы і сустрэчы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. А сціплыя ўзнагароды — медалі «Партизану Отечественной войны» II ступені і «Двадцать лет Победы в Великой Отечественной войне 1941–1945 гг.» — ёй былі ўручаны толькі 16 лютага 1965 года.

**Осіпава Марыя Барысаўна**

Нарадзілася 27 снежня 1908 года ў вёсцы Серкавіца Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. З сям'і рабочых. Беларуска. Служачая. У 1935 годзе скончыла Вышэйшую сельскагаспадарчую школу імя У.І. Леніна і юрыдычны інстытут у Мінску. У гады Вялікай Айчыннай вайны — кіраўнік мінскай падпольнай групы.

Паводле сведчанняў Осіпавай, першая яе сувязь з падполлем адносіцца да верасня 1941 года. У гэты час яна сустрэлася са сваёй сяброўкай — былой памочніцай пракурора горада Мінска А.А. Сакаловай. Яны вырашылі шукаць шляхі для наладжвання сувязі з існуючым Мінскім гарадскім падполлем. Практычная праца Осіпавай у той час зводзілася да таго, што Сакалова прывозіла з Уздзенскага раёна ўлёткі, а яна распаўсюджвала іх праз былога студэнта Мінскага юрыдычнага інстытута Р.М. Бромберга і рабочага завода М.Э. Столава.

У ліпені 1941 — верасні 1943 гадоў Осіпава кіравала тэрытарыяльнай падпольнай арганізацыяй, якая мела сувязь з Мінскім падпольным гаркамам КП(б)Б, партызанскімі атрадамі «Дима», «Местные» («Градава»), брыгадамі «Жалязняк», М.М. Нікіціна і 200-й імя К.К. Ракасоўскага.

У падпольную арганізацыю ўваходзілі, паводле няпоўных звестак, звыш 50 чалавек.

Пасля вайны Осіпава — член Вярхоўнага суда БССР, ганаровы грамадзянін Мінска з 1968 года і горада Нурэк (Таджыкістан). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. У памяць аб загінуўшых партызанах атрада «Дима» яна ўнесла важкі грашовы ўклад у будаўніцтва царквы ў вёсцы Янушкавічы Лагойскага раёна.

Памерла Марыя Барысаўна Осіпава 5 лютага 1999 года. Пахавана на Маскоўскіх могілках у Мінску. Выдаткі на пахаванне і ўстаноўку помніка ўзяла на сябе дзяржава. Рашэннем Мінскага гарвыканкама на доме, дзе ў апошнія гады жыла Осіпава (вуліца Кісялёва, 11), устаноўлена мемарыяльная дошка.

**Траян Надзея Віктараўна**

Нарадзілася 24 кастрычніка 1921 года ў горадзе Верхнядзвінску Віцебскай вобласці. З сям'і служачага. Беларуска. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны на падпольнай рабоце ў горадзе Смалявічы Мінскай вобласці, адна са стваральніц падпольнай камсамольскай арганізацыі. З ліпеня 1942 года — разведчыца і медыцынская сястра партызанскага атрада «Буря» 4-й партызанскай брыгады «Дяди Коли» Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці.

У 1947 годзе закончыла 1-ы Маскоўскі медыцынскі інстытут. Кандыдат медыцынскіх навук (1962). Пасля вайны — выкладчык ВНУ, дырэктар Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута санітарнай асветы СССР, старшыня выканкама Савецкага Чырвонага Крыжа, прарэктар 1-га Маскоўскага медыцынскага інстытута.

У 1968–1975 гадах я працаваў у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Аднойчы, зімой 1972 года, калі я збіраўся ў камандзіроўку ў Маскву, Галоўная рэдакцыя БелСЭ прапанавала мне адвезці на візу артыкул пра Героя Савецкага Саюза Н.В. Траян, які планаваўся змясціць у 9-м томе. У кватэры мяне сустрэла домработніца і паведаміла, што Траян цяпер на дачы за горадам піша справаздачны даклад. Я пакінуў артыкул на візу Траян і заехаў за ім перад ад'ездам у Мінск. Артыкул быў завізіраваны, праваак ніякіх не было (дарэчы, тэкст гэтага артыкула і да нашага часу публікуецца без зменаў у энцыклапедычных выданнях Беларусі). Яе зноў дома не было.

Узнагароджана медалём «Залатая Зорка» Героя Савецкага саюза, ордэнам Леніна, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Айчыннай вайны І ступені, ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам Дружбы народаў, шматлікімі медалямі.

Надзея Траян жыла ў Маскве. Памерла 7 верасня 2011 года.

**Каліта Таццяна Нікіцічна**

Нарадзілася 6 снежня 1918 года ў Мінску. У 1940 годзе закончыла Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (МДМІ). З 1 верасня 1940 года да 22 чэрвеня 1941 года — аспірантка кафедры нармальнай анатоміі МДМІ. Са студзеня 1941 года па ліпень 1942 года — стажор 1-й Савецкай бальніцы ў Мінску. З ліпеня 1942 года па май 1943 года — прыбіральшчыца ў асабняку Кубэ. З чэрвеня па верасень 1943 года сувязная спецгрупы «Феликс», з верасня 1943 года да пачатку ліпеня 1944 года — урач спецгрупы «Феликс», начальнік санітарнай службы 3-га партызанскага атрада брыгады «Железняк». З кастрычніка 1944 года — асістэнт, з 1959 года — дацэнт кафедры нармальнай анатоміі МДМІ.

У 1954 годзе Каліта абараніла кандыдацкую дысертацыю «Строение и связи поясничного отдела пограничного симпатического ствола человека».

Памерла 21 жніўня 1996 года.

ЛЁСЫ

# НЯСКОРАНЫ МІХАІЛ МАРЫНІЧ

**Ад рэдакцыі:** мы публікуем скарочаны варыянт успамінаў Міхаіла Марыніча. Поўны можна прачытаць на сайце газеты novychas.org

*Аляксандр ТАМКОВІЧ*

**Мабыць, гэта была самая працяглая размова ў маёй журналісцкай практыцы. Першы раз з Міхаілам Марынічам мы сустрэліся яшчэ восенню 2009 года. Запісалі першую частку. Ён некуды спяшаўся і абяцаў завітаць яшчэ раз. Але працяг размовы адбыўся толькі ў 2011 годзе. Прычына — рэзкае пагаршэнне здароўя. Тым не менш сваё абяцанне ён выканаў. На мой погляд, гэта і ёсць адна з галоўных рысаў характару Міхаіла Марыніча — трымаць слова, даводзіць усе справы да канца.**

## На фоне кар'еры

Займаючы кіроўную пасаду, я заставаўся беспартыйным. У той час працаваць інжынерам і быць беспартыйным было рэдкасцю. Я доўга не бачыў сэнсу ва ўступленні ў партыю, але потым акалічнасці прымусілі.

Атрымаў запрашэнне паехаць у камандзіроўку ў Афганістан. Тэрміны пачатку камандзіроўкі падціскалі, таму камуністам стаў без кандыдацкага стажу.

У Афганістане я прабыў тры гады. Гэта былі часы яшчэ да ўводу савецкіх войскаў.

Вярнуўся на радзіму, і адзін з тагачасных беларускіх міністраў Більдзюкевіч прапанаваў мне ўзначаліць буйное будаўнічае ўпраўленне СМУ №4 Трэста «Белстромрамонт».

Першы сакратар Мінскага гаркама КПСС Барташэвіч запрасіў мяне на работу ў гарадскую адміністрацыю. У гэты час узнік новы сталічны раён — Маскоўскі — і мяне абралі (тады іх не прызначалі) спачатку першым намеснікам, а праз год старшынёй райвыканкаму. Так у пачатку 1980-х гадоў адбыўся яшчэ адзін паварот службовай кар'еры.

У 1984 годзе стаў намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама і адразу атрымаў даручэнне занясца будаўніцтвам Мінскага метро. Першая лінія сталічнага метрапалітэну была пабудавана пры мне. А за «Усход» нават атрымаў прэмію Савета Міністраў СССР. У 1989 годзе ўзначаліў Мінскі гарвыканкам.

Напачатку 1990-х гадоў была цяжкая эканамічная сітуацыя. Узгадваю важны хвалюючы момант, калі дзясяткі тысяч галодных людзей выйшлі на плошчу. Ні прадстаўнікі ўраду, ні прадстаўнікі парламента не рашыліся выйсці тады да натоўпу.

Вячаслаў Кебіч даверыў гэта мне. Моцна перажываў, таму што разумеў — людзям цяжка. Трэба было даць ім упэўненасць, што іх лёс зменіцца ў лепшы бок. Адзіным інструментам для гэтага было слова, а не як зараз — дубінка і аўтазак. Мая задача была размаўляць з людзьмі і пераканаць іх. Сапраўдны досвед публічнай палітыкі. Ён моцна мне потым дапамог.

У парламент я прыйшоў як дэпутат, вылучаны ад будаўнікоў метро. Тады было шмат цікавых палітыкаў, яркіх асобаў. Большасць з іх вядома і дагэтуль — Шушкевіч, Лябедзька, Баршчэўскі, Пазняк, Голубеў, Сасноў, Краўчанка.

У вярхоўным Савеце 12 склікання я працаваў адразу ў дзвюх камісіях. Адна займалася бюджэтам краіны, другая — будаўніцтвам. Прапаноўваў перайменаваць «Метрапалітэн імя У.І. Леніна» ў «Метрапалітэн імя П.М. Машэрава». На жаль, дэпутаты гэта не падтрымалі.

Калі стваралі знакамітую антыкарупцыйную камісію, старшынёй прапанавалі стаць мне. Ад новай пасады адмовіўся, бо мне не да спадобы займацца следствам, сачэннем, хапаць кагосьці за руку. Я не бачыў сябе кантралёрам. Тады Шушкевіч пагадзіўся з прапановай наконт Лукашэнкі.

Новая плынь майго жыцця пачалася ў 1994 годзе. Стаў паслом у Чэхіі, Славакіі і Венгрыі па сумяшчальніцтву. У апошнюю краіну даехаць з вярыцельнымі граматамі нават не паспеў, таму што быў адазваны на пасаду намесніка старшыні камітэта па знешнеэканамічных сувязях.

Я быў першым і адзіным міністрам знешнеэканамічных сувязей Беларусі. Гэта міністэрства праіснавала толькі пяць гадоў (1994–1999) і было перададзена ў склад міністэрства замежных спраў.

Гэта быў перыяд багатых і плённых кантактаў з замежнымі інвестарамі. Частка атрымалася — сумесны праект з немцамі па крэдытнай лініі «Гермес» па рэканструкцыі нафтаперапрацоўчых заводаў, што дазволіла вырабляць бензін больш высокага гатунку, адкрыццё амерыканскага заводу «Кока-Кола», скуранога завода ў Гатава з італьянскімі інвестыцыямі і інш. Але, на жаль, яшчэ больш праектаў не атрымалася — буйныя французскія кампаніі хацелі інвеставаць у льняную галіну і нафтаперапрацоўку. Не была рэалізавана ідэя карэйскіх бізнесмэнаў па будаўніцтву завода аўтамабіляў «ДЭА», чэшскіх уласнікаў па будаўніцтву аўтазавода «Шкода», быў зачынены завод «Форд» і інш. Я спрабаваў упэўніваць урад і Лукашэнку, што такія праекты патрэбны Беларусі, але беспаспяхова. Ужо тады зараджалася дыктатура, і ўпэўніваць у перавагах прыватнай уласнасці і прыходу замежнага капіталу было ўсё цяжэй. Ужо тады стала зразумела, што мая пазіцыя абароны інтарэсаў рынкавай эканомікі была ў супрацьстаянні з пазіцыяй Лукашэнкі.

У пачатку 1999 года я стаў амбасадарам у Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі. У час маёй працы ў Латвіі я канчаткова саспеў як палітычны лідар, які бачыць для сваёй краіны зусім іншыя шляхі развіцця.

Думкі, якія ўзнікалі падчас доўгай працы з міжнароднымі праектамі, аформіліся ў канкрэтную праграму рашэнняў наконт далейшага развіцця Беларусі. Гэта быў важны і галоўны этап у маім жыцці. Вясной 2001 года ў Рызе я напісаў заяву аб тым, што не згодны з палітычным і эканамічным курсам дзеючага прэзідэнта і бяру адпачынак у сувязі з удзелам у прэзідэнцкіх выбарах.



## На фоне кратаў

Адразу пасля тых выбараў узначаліў грамадскае аб'яднанне «Дзелавая ініцыятыва». Асацыяцыя гэта адстойвала інтарэсы бізнэсу, але папрацаваць нам доўга не далі. 26 красавіка 2004 года мяне арыштавалі.

«Дзелавая ініцыятыва» пачала дзейнічаць у 2001 годзе, а ў 2003 Міністэрства юстыцыі Беларусі вырашыла, што я незаконна там кірую. Грамадскім арганізацыям стала немагчыма нармальна працаваць у Беларусі, асабліва калі іх дзейнасць не супадала з афіцыйнай лініяй развіцця краіны. А слова «ініцыятыва» ў прынцыпе ў нашай краіне мае негатыўны сэнс.

У пачатку 2004 года «Дзелавая ініцыятыва» арандавала офіс у Мінску. Я ў той час быў у працяглай камандзіроўцы ў ЗША, і ўлада даволі агідна выкарыстала гэты момант. Яны націснулі на гаспадыню, каб тая адмовіла ў арэндзе. Мае паплечнікі былі вымушаны тэрмінова адтуль з'ехаць, а ўсю аргтэхніку — у тым ліку і тую, якая была па дамоўленасці з амерыканскай амбасадай у Мінску — перавесці (пакуль не знойдзем новае памяшканне) у мой гараж. Менавіта гэты факт беларускі КДБ у будучым і выкарыстае, каб абвінаваціць мяне ў крадзяжы гэтай аргтэхнікі. Я разумеў, што ўсё гэта накіравана не супраць дзейнасці арганізацыі, а супраць мяне асабіста.

Адначасова ўзмацніўся ціск па ўсіх напрамках. Штодзённа я бачыў за сабой сачэнне, у тым ліку і ў замежных камандзіроўках. Праслухоўваліся ўсе тэлефоны. У дзяржаўнай прэсе пачалася кампанія па дыскрэдытацыі дзейнасці «Дзелавой ініцыятывы». Арганізацыі не давалі адкрыць свае філіі ў рэгіёнах. Пад рознымі прычынамі закрываліся нашы офісы. Толькі ў Мінску за два гады існавання было чатыры пераезды. З некалькі крыніц даведаўся, што ёсць загад мяне «ізаляваць» і рыхтуецца арышт.

У сярэдзіне красавіка 2004 года адбылося таемнае пранікненне ў маю кватэру, адкуль зніклі 25 тысяч долараў ЗША. Замкі былі пашкоджаны, але, нягледзячы на гэта, распачынаць крымінальную справу міліцыянты не сталі.

Раніцай 24 красавіка 2004 года ў маёй машыне разбілі шкло і скралі адтуль радыёпрымач і сонцаахоўныя акуляры. А вечарам таго ж дня машына, на якой ехаў я, быццам бы за перабольшванне хуткасці была спынена спецыяльным падраздзяленнем ДАІ «Страла».

Потым яны зрабілі спробу даказаць, што я сеў за руль нецвярозым, але і гэта не атрымалася.

У парушэнне канстытуцыйных нормаў, захацелі даглядзець мае асабістыя рэчы. Як толькі я пачаў аспрэчваць гэтую спробу, з'явіліся супрацоўнікі КДБ, якія брутальна (без якіх-небудзь санкцый) канфіскавалі дыпламат з асабістымі грашамі. Па гэты дзень 91 тысячу долараў ніхто мне не вярнуў.

Каля васьмі гадзін вечара прывезлі ў следчы камітэт КДБ. Не дазволілі патэлефанаваць ні сваякам, ні адвакату, што, мякка кажучы, незаконна.

Допыт працягваўся амаль да чатырох гадзін раніцы. Яго здымалі схаванай камерай, а потым урыўкі з адпаведнымі каментарамі паказваліся па Беларускаму тэлебачанню. Затым мяне з КДБ адпусцілі з патрабаваннем прыйсці туды ў 15.00 наступнага дня, быццам бы для таго, каб вярнуць грошы.

Калі я туды прыйшоў, то пачуў, што частка маіх грошаў (41 900 долараў ЗША) быццам бы фальшывая. За гэта мяне і «зачынілі» ў СІЗА КДБ.

У гэты ж дзень адбыўся вобыск на лецішчы і ў гаражы, дзе яны і «знайшлі» амерыканскую аргтэхніку.

Праз тры дні была распачата крымінальная справа, дзе фальшывай валюты ўжо не было. На працягу 8 месяцаў мяне трымалі ў СІЗА КДБ і спрабавалі ўзбуджаць розныя крымінальныя справы. А толькі 30 снежня 2004, нягледзячы на адсутнасць адпаведных доказаў, я быў асуджаны да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Гэта было адно з самых цяжкіх навагодніх святаў для мяне і маёй сям'і.

Спачатку быў накіраваны на Валадарку, а потым у сумна вядомую Аршанскую калонію. Больш за тыдзень мяне трымалі без лекаў на вельмі цяжкім этапе, а потым на каранціне ў Аршанскай калоніі. І, як следства, 6 сакавіка 2005 года ў мяне здарыўся інсульт. Спецыялісты-медыкі прыехалі з Мінска толькі праз тыдзень, і мяне перавялі ў сталічную папраўчую калонію нумар адзін, якой больш па былому адрасу не існуе. У лістападзе далі другую групу інваліднасці.

12 сакавіка 2005 года ажаніўся з Таццянай Баранавай, і толькі праз год (14 красавіка 2006 года) адбылося ўмоўна-дэтэрміновае вызваленне.

Мы вымушаны былі пайсці на гэтую фармальнасць у такіх умовах, каб нам дазволілі спатканні. Менавіта ў час хваробы яны былі мне неабходныя. На жаль, шмат хто ў тыя часы не зразумеў гэты вымушаны крок, было шмат каментараў, непаразумення. Лукашэнка не праігнараваў гэты факт і ўзгадаў наша пабранне шлюбам падчас штогадовага звароту да народу і парламента.

## На фоне свабоды

Пра тое, што здарылася са мной асабіста, шкадую толькі ў тым сэнсе, што гэта даволі яскрава сведчыць пра тое, якую краіну мы пабудавалі. Вельмі сумна… Я сышоў з вяршыні кар'ернай лесвіцы, але заставацца там і абараняць дзеючы рэжым не бачыў ні сэнсу, ні жадання. Я зрабіў так, як дыктавала мне сэрца. Мне не сорамна за тое, што зрабіў перад сваімі дзецьмі. Я шчаслівы бацька. У мяне тры сыны. Малодшаму Мішу ў лютым 2012 года будзе 5 гадоў.

Пасля вызвалення не спыніўся змагацца за свае правы і даслаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Гэта змаганне было істотным не толькі для мяне і маёй сям'і. Я жадаў паказаць іншым, наколькі важна змагацца за свае правы. 4 гады спатрэбілася на доўгія перапіскі і на тое, каб атрымаць доўгачаканае рашэнне Камітэту па правах чалавека ААН. У кастрычніку 2010 года Камітэт прызнаў мяне ахвярай палітычнай расправы. Гэта першы прэцэдэнт у гісторыі Беларусі, калі палітычны зняволены прызнаецца ахвярай Камітэтам па правах чалавека ААН і пацвярджаецца прымяненне ў дачыненне да мяне катаванняў.

Гэтая навіна была вельмі радаснай, але прыйшла ў вельмі цяжкія часы. Два гады таму ў мяне здарыўся другі інсульт, і лекары не давалі шанцаў. Цяжка і сёння, не заўсёды цела слухаецца мяне так, як раней, але я знаходжуся ў пастаянным руху і развіцці. У гэтым годзе мы з сям'ёй ездзілі ў падарожжа па Еўропе на аўтамабілі. Паказалі Мішу больш за 15 краін.

Я ўдзячны аднаму псіхолагу, якая сказала мне пасля інсульту: не глядзіце ў мінулае — глядзіце толькі ў будучыню. У будучыню я гляджу з аптымізмам і чакаю пераменаў зараз ужо не толькі ў сваім жыцці, але галоўнае — у жыцці сваёй краіны.

Я не шкадую, што згубіў за гэты перыяд некаторых людзей, якія былі мне сябрамі… Ці трэба пра гэта шкадаваць? Лічу, што ў гэты перыяд набыў стасункі са многімі людзьмі, і каштоўнасць такіх адносінаў яшчэ больш значная, чым была раней. Сярод іх ёсць і маладыя людзі, дзякуючы якім адбудуцца перамены ў нашай краіне, якая сапраўды самабытная асоба, якія ствараюць гісторыю Беларусі.

▸ З НАГОДЫ

# БЕЛАРУСКІ АВАНГАРД 1980-Х

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**На Вадохрышча мяне заінтрыгаваў натоўп публікі ля ўвахода ў «Галерэю Ў». 19 студзеня тут адбывалася прэзентацыя «Х-паці ў стылі 80-х».**

Гулліва-брутальная праграма яе прадугледжвала выступ ветэранаў беларускага авангарду і перадавікоў сац-арт-вытворчасці 1980-х, аўтограф-сесію з імі. А таксама выставу пладова-ягадных вінаў з калекцыі Ягора Сурскага, фуршэт у імправізаваным буфеце з канапкамі з салам, салёнымі гуркамі і іншымі прысмакамі ў слоіках ад рэжысёра імпрэзы Артура Клінава, які катэгарычна патрабаваў мець пры сабе гранёную шклянку. А яшчэ жывую музыку ў выкананні Зміцера Бартосіка і Андрэя Плясанава ды дыскатэку з дзіджэем Міколам Марксістам.

Прэзентацыя ладзілася з нагоды выдання мастацкага альбома «Беларускі авангард 1980-х». Выдадзены накладам у 250 асобнікаў і аб'ёмам у 150 старонак, на добрай глянцавай паперы, альбом утрымлівае больш за сотню рарытэтных аматарскіх фотакартак, якія збольшага абмалёўваюць зрэз неафіцыйнага мастацкага жыцця таго часу.

З'яўленне альбома — падзея доўгачаканая і не шараговая не толькі ў мясцовым культурніцкім асяродку. Тым больш, што гэты альбом ужо чацвёрты з 32-х запланаваных. У праекце, запачаткаваным у 2009 годзе мастаком і галоўным рэдактарам альманаха актуальнага беларускага мастацтва «pARTisan» Артурам Клінавым, ужо пабачылі свет альбомы: «Дванаццаць» (Артур Клінаў), «Ё Цэслер» (Уладзімір Цэслер), і «План уцёкаў» (Руслан Вашкевіч). У новым жа альбоме — блізу 150 твораў 35 мастакоў нонканфармістаў, якія ў 1980 гады гуртаваліся на падставе эстэтычнай (ці антыэстэтычнай) блізкасці, проста сяброўства ў такіх творчых суполках ды аб'яднаннях, як «Форма» (А. Бялоў, В. Пятроў-Хруцкі, В. Мартынчык, Т. Копша, У. Лапо...), «Галіна» (У. Акулаў, А. Ржэвуцкі, А. Тарановіч, М. Анемпадзістаў), «Плюраліз» (Л. Русава, А. Жданаў, І. Кашкурэвіч), «БЛО» (В. Чарнабрысаў, А. Клінаў, В. Песін, І. Барадуліна, А. Пілат ) і іншых.




Урачыста-афіцыйная частка прэзентацыі ўзняла шэраг відавочных і актуальных пытанняў. Так, да прыкладу, калекцыянер спадар Ксеневіч узняў гаворку пра неабходнасць (і магчымасць) стварэння музея альтэрнатыўнага мастацтва. Добра вядомая і шматгранная асоба А. Плясанаў распавёў, як у яго калекцыі з'явіліся першыя творы незалежных мастакоў-пагодкаў. Мастацтвазнаўца сп. Л. Фінкільштэйн засяродзіла ўвагу прысутных на неабходнасці дакладнасці вызначэнняў: авангард або андэграўнд ці альтэрнатыўнае мастацтва?

Авангард (франц. avant — «перадавы» і garde — «атрад») — агульная назва эксперыментальных плыняў, школаў, канцэпцыяў, ідэяў, творчых падыходаў асобных мастакоў ХХ стагоддзя ў іх імкненні да мастацкага стварэння «чыстых» сутнасцяў, «абсалюту». Андэграўнд (ад англ. Underground — «падпольны») належны да сукупнасці творчых напрамкаў у сучасным мастацтве, якія супрацьстаўляюцца маскультуры і не падтрымліваюць класічны шлях, не маюць першапачаткова свядома абранай камерцыйнай або ўжытковай мэты.

З працытаваных слоўнікавых тлумачэнняў вынікае, што, не зважаючы на свой запраграмаваны нігілізм, нонканфармісцкае мастацтва, мастацтва беларускага андэграўнду 1980-х гадоў (бо дэфініцыя «авангард» наднацыянальная), па большасці наследуе і распацоўвае кірункі пачатку ХХ стагоддзя.

У адвечным двубоі за прыярытэт між зместам з формай, у часы крыяння постіндустрыяльнага грамадства, большая пашана да формы не азначае паразу рэалістычных выяваў адухоўленага зместу, а сведчыць хіба аб часовым першынстве цывілізацыйнай парадыгмы.

Хай ласкава даруе аўтар уступнага артыкула і ўкладальнік хронікі мастацкага жыцця мастацтвазнаўца Вольга Архіпава за тое, што, асмеліўся трошкі ўдакладніць яе слушную думку наконт таго, што «глабальныя грамадска-палітычныя ўзрушэнні таго перыяду (80-х гадоў — С.Г.)... прывялі да змен гістарычнай парадыгмы». Але слушна і тое, што гэтым трансфармацыям сацыяльным і «лёсавызначальным» працэсам папярэднічаюць адпаведныя рэвалюцыйныя трансфармацыі мастацтва, культуры ўвогуле.

Перыяду застойлівага міжчасоў'я, у які пачалі фармавацца контуры постіндустрыяльнага грамадства, была ўласціва прага «вольнага паветра», сапраўднай культуры, якая, не будучы адзіным вядучым чыннікам зменаў, з'яўляецца іх абавязковай папярэдніцай і перадумовай. У многім стыхійная, падсвядомая прага Волі ў тагачаснай адукаванай (прынамсі, знаёмай з польскімі часопісамі «Праект», «Штука», вугорскім «Мюверсэт»), народжанай у горадзе моладзі, з апірышчам на папярэднікаў пачатку стагоддзя, і «віцебскай школы» спрыяла актыўнаму роздуму, пошуку новых тэмаў, зместаў, формаў.

«Наэлектрызаванасць» атмасферы была прыкметнай ва ўсіх відах і ў колах афіцыйнага мастацтва. Згадаем хоць бы шматлікія суполкі, што ўзніклі ў межах афіцыйнага Саюза мастакоў — «Няміга», «Новая Акадэмія», «Пагоня» і інш.

Асабіста мне выданне «Беларускі авангард 1980-х» падаравала хвіліну лёгкай настальгіі па зніклай маладосці (не па каўбасе ў 2.20!) і імгненне бясклапотнай вандроўкі па часе, за якое я паспеў:

- паназіраць Тыфліс разам з бязмежна цікаўным да ўсіх жыццёвых праяў Генкам Хацкевічам, абцёршы пот і пераводзячы дух на падэшве якойсьці гары, разам з Валодзем Шчаўкуном зачаравана ўглядацца ў зязючы, вабна-алмазны капялюш вяршыні насупраць;
- наведацца да паэта і творцы галерэі мутантаў гарэзы Лёшы Жданава, запраўленага «энергетычнай вадкасцю», у яго невялічкай бакоўцы кватэркі па Чырвонай, паставіць пад сумнеў праўдзівасць інтрыгуюча-змоўніцкай упэўненасці Чарнабрыса, што «працэс пошёл»;
- праверыць разам з Ігарам Кашкурэвічам, ці адчыніць на іх званок уваходныя дзверы ў сваю кватэру яшчэ ўчора спікер Вярхоўнага Савет РБ;
- на ўласнай варэльні, седзячы пад «сезаніскім» нацюрмортам сябра, даслухаць эмацыйную прамову няўрымслівага Сяргея Лапшы (даўно як цвярозага) пра ўсеагульную неабходнасць засвяення мінімалізму, пра яго ўласнае разуменне творчасці Ротка;
- пазнаёміць Віцю Пятрова-Хруцкага і Сашу Забаўчыка з нямецкім авангардыстам Анатолем Чайкоўскім;
- зайсці разам з Лёнікам Тарасевічам у майстэрню на Камуністычнай да Валеры Мартынчыка;
- тусануцца на каве разам з Артурам Клінавым ва ўніверсаме «зайдзі-выйдзі»;
- пабачыць, апрача знаёмых палотнаў, творы, якія ад нараджэння прапісаліся ў недасяжных воку замежных калекцыях...

І яшчэ, яшчэ, яшчэ... Лепшага падарунка і чакаць было не варта.

Густоўна сабраныя пад адным дахам вокладкі творы з прыватных калекцый розных краін ствараюць паўнавартасны партрэт неафіцыйнага беларускага мастацтва 1980-х, важкую частку нацыянальнага даробку. Але толькі частку. Калі «неафіцыйнае беларускае мастацтва 1980-х» уважаць за «авангард», то «Авангард Беларусі 1980-х» — больш слушнае азначэнне зместу альбома, бо сутнасна «тэхналогія» сама па сабе з'ява касмапалітычная.

Выбарка аўтараў — справа ўкладальнікаў альбома, але прыміце параду старонняга, альбом толькі б выйграў, калі б дадаліся творы: бацькі і сына Басавых, Т. Копшы, А. Родзіна, У. Шчаўкуна, творы зараз пісьменніка, грамадзяніна Швецыі З. Плакса, грамадзяніна Германіі А. Тарановіча і інш. Яны ўсе таксама прадстаўнікі альтэрнатыўнага мастацтва Беларусі, беларускага андэграўнду 1980-х. Але, безумоўна, усё гэта не самае істотнае, як і тыя нешматлікія недакладнасці, што сустракаюцца ў «хроніцы мастацкага жыцця». Нават калі гэтыя «артэфакты» абапіраюцца на дакумент — праграмку, запрашальнік і г.д.

Гэта першая праца, следам за якой мусіць з'явіцца наступныя: з пашыраным ілюстрацыйным шэрагам, які дасць магчымасць прасачыць рух мастака, з дасканала выверанай фактаграфіяй, каментарамі, больш ёмістымі біябібліяграфічнымі даведкамі і г. д.

▸ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Рэсі — плюшавая дзяўчынка з пранікнёнымі вочкамі**



Малечу Рэсі людзі закапалі жыўцом, разам з брацікамі і сястрычкамі. Але маці шчанюкоў знайшла іх і адкапала, клапацілася пра іх і здолела вырасціць. У Рэсі быў пераламаны таз, але і з гэтай бядой яна справілася — усё зраслося.

Жыццё не было ласкавым для маленькай Рэсі, але зараз яна жыве ў валанцёра «СуперПса» і верыць у тое, што заззяе і яе зорачка — знойдзецца той самы яе гаспадар. Ёй 5 месяцаў, ростам сабака зараз каля 30 сантыметраў, але яшчэ крыху падрасце.

Рэсі ўмее цаніць сяброўства і жыва рэагуе на любоў і пяшчоту, будзе выдатным кампаньёнам.

Тэлефануйце Анастасіі і прыязджайце знаёміцца з Рэсі і іншымі суперсабакамі і супершчанюкамі, 8-029 775 57 53

**Алёша — містэр Вялікія Шчочкі**

За нядоўгі час знаходжання ў прытулку «СуперКот» гэты каток ужо паспеў заказаць у сябе ўсіх валанцёраў і займець уласны фан-клуб. А як інакш? Алёша — спакойны, выхаваны, інтэлігентны малады коцік, ярка-руды з ахайнай белай манішкай. Ягоная прыгажосць, непасрэднасць і пяшчотнасць скарае з першага позірку!



Коцік кастрыраваны і ходзіць у латочак.

Болей пра Алёшу і іншых гадаванцаў Коткінага дому можна даведацца па нумарах 8-029 650-97-29 (Аксана), 8-029 373-96-49, 8-029 779-52-03 (Вольга).

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 109

Падпісана да друку 03.02.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.